Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 25 (4928) 23 чэрвеня 2017 г.



# СОНЦА. АГОНЬ. АЎТЭНТЫКА.

## Папараць-кветку шукалі на II Міжнародным фолк-фестывалі «Свята сонца» ў Дудутках

Вялікія, да нябёсаў, вогнішчы, вянкі на рачных хвалях, дзяўчаты і юнакі ў нацыянальных строях, святочныя карагоды, этнічная музыка і народныя спевы — беларускія культурныя традыцыі не прыпыніліся, а працягваюцца ў XXI стагоддзі. Адна з незгасальных традыцый Беларусі — свята летняга сонцазвароту, калі самая кароткая ноч года асвятляецца купальскімі вогнішчамі. Беларусаў часам называюць хрышчонымі паганцамі. Купальская ноч пацвярджае такі пункт гледжання, бо арганічна спалучае ў сваіх абрадах дахрысціянскія вераванні з ушанаваннем памяці святога Іаана Хрысціцеля — ці не лішні доказ універсальнай беларускай памяркоўнасці? У нашай краіне Івана Купалу адзначаюць маштабна: цягам некалькіх тыдняў у гарадах і вёсках ладзяцца імпрэзы з народным каларытам. Сёлета шэраг святкаванняў распачаў фолк-фестываль «Свята сонца» ў музейным комплексе «Дудуткі».

Зразумела, асаблівасці новай эпохі адбіліся на фармаце імпрэзы: калі традыцыя жывая, яна не прымае застылую форму, а ўзбагачаецца, змяняецца з кожным годам. Сучаснае Купалле спалучае *fire show*, *open-air*-канцэрты беларускіх фолк-рок-гуртоў, кірмашы з вырабамі рамеснікаў, фуд-корты з беларускімі стравамі і напоямі, этнапляцоўкі з майстар-класамі, тэматычныя гульні і танцы. Галоўныя абрады засталіся нязменнымі: моладзь пляце вянкі, кружыцца ў карагодах, скача праз вогнішчы. Падчас свята нашыя продкі імкнуліся ўлагодзіць магутныя прыродныя стыхіі: Агонь, Зямлю ды Ваду. Калі сонца схавалася за даляглядам, яго месца заняў агонь. У цэнтры ўвагі — *fire show*, якое перайшло ў факельнае шэсце да берагоў Пцічы: як і стагоддзі таму, сучасныя беларусы збіраюцца разам, каб аб'яднаць галоўныя элементы Купалля.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**


*Фота БелТА.*

# «УРОКІ СУЧАСНАСЦІ»

## Увага: конкурс для выкладчыкаў беларускай літаратуры!

**Газета «Літаратура і мастацтва» абвяшчае конкурс на лепшы ўрок пазакласнага чытання па сучаснай беларускай літаратуры, дзе, як у люстэрку, выяўляюцца асноўныя пытанні, якімі жыве грамадства сёння, да вырашэння якіх далучаецца новае пакаленне.**

**Мэта** конкурсу — узняць прафесійную цікавасць педагогаў да айчыннай літаратуры, выхаваць будучых неабыякавых чытачоў, для якіх кніга павінна стаць спадарожнікам у жыцці.

Арганізатар конкурсу — РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» і рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва».

Конкурс ладзіцца з 1 ліпеня 2017 года па 31 снежня 2017 года сярод выкладчыкаў навучальных устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Вынікі будуць падведзены на пачатку студзеня 2018 года. Аўтары трох лепшых распрацовак атрымаюць грашовыя ўзнагароды:

**I прэмія — у памеры 10 базавых велічынь;**

**II прэмія — 7 базавых велічынь;**

**III прэмія — 5 базавых велічынь.**

**Найбольш цікавыя і арыгінальныя работы будуць надрукаваныя на старонках газеты «ЛіМ».**

**Умовы** конкурсу: прадстаўляюцца метадычныя распрацоўкі ўрокаў пазакласнага чытання па сучаснай беларускай літаратуры (творы беларускіх аўтараў, напісаныя пачынаючы з 1990 года).

Каб прэзентаваць сваю ідэю, прапануем абазначыць наступныя моманты:

1. назва і тэма заняткаў;
2. абгрунтаванне актуальнасці тэмы;
3. пералік твораў, па якіх праводзяцца заняткі;
4. арыгінальнасць правядзення ўрока;
5. удзел вучняў у занятках (цікавыя высновы і рэмаркі);
6. вынікі (уласныя ўражанні настаўніка).

Удзельнікі конкурсу пагаджаюцца на рэдагаванне тэкстаў і іх публікацыю. Аб'ём тэксту — да 7000 знакаў.

У якасці ілюстрацыі да газетнай публікацыі прымаюцца фотаздымкі пісьменнікаў, калажы, фотаздымкі з урокаў і г. д. (па тэме заняткаў).

Просім удзельнікаў паведаміць наступную інфармацыю:

1. прозвішча, імя, імя па бацьку;
2. кантактны нумар;
3. месца працы (назва ўстановы адукацыі);
4. месца пражывання;
5. пашпартныя дадзеныя (нумар пашпарта; ідэнтыфікацыйны нумар; кім і калі выдадзены пашпарт).

**Тэксты прымаюцца ў электронным выглядзе на адрас *lim_new@mail.ru* з пазнакай «Конкурс для настаўнікаў». Кантактная асоба — Ларыса Цімошык.**

**Поўныя ўмовы конкурсу будуць размешчаны на сайце Выдавецкага дома «Звязда» *(www.zviazda.by)* 26.06.2017.**

**Для тых, хто хоча сачыць за ходам конкурсу па газеце, нагадваем, што кошт індывідуальнай льготнай падпіскі для настаўнікаў складае 3 рублі на месяц (індэкс 63815). Першыя матэрыялы «Урокаў сучаснасці» мы прапануем ужо ў ліпені. Дзяліцеся сваімі напрацоўкамі!**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб уганараванні дзяржаўнымі ўзнагародамі прадстаўнікоў розных галінаў дзейнасці. Сярод работнікаў культуры і мастацтва былі адзначаны два чалавекі: ордэнам Пашаны ўзнагароджаны галоўны дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Іосіфа Жыновіча Міхаіл Казінец; ганаровае званне народнага артыста Беларусі атрымаў кінарэжысёр, сябра Беларускага саюза кінематаграфістаў Анатоль Алай.

✔ У Астане прайшла ІІ Еўразійская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш *Eurasian Book Fair 2017*. Галоўная ўзнагарода гэтага конкурсу прысуджана кнізе-альбому «Сусветная спадчына Францыска Скарыны» выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», паведамляе БелТА. Усяго на выстаўцы было прадстаўлена больш за 10 тысяч кніг з 25 краін свету: Беларусі, Расіі, Кітая, ЗША, Германіі, Польшчы, Турцыі, Ірана, Індыі, Манголіі ды іншых. Кнігам беларускіх выдавецтваў былі прысуджаны дыпломы рознай ступені і ў іншых конкурсных намінацыях. Нашая краіна прадставіла больш за 300 выданняў, якія differentіяльна характарызуюць сучасны айчынны кнігавыдавецкі працэс.

✔ 24 чэрвеня каля Ратушы пройдзе Дзень літоўскай культуры. На галоўнай сцэне выступяць літоўскія артысты: капэла народнай музыкі «*KAIMYNAI*», ансамбль песні і танца «*MINIJA*», фальклорны ансамбль «*Seluona*». Творчыя калектывы зладзяць для мінчан майстар-класы па літоўскім народным танцы, разьбе па дрэве, мастацкай апрацоўцы бурштыну. У выстаўцы возьмуць удзел майстры народнай творчасці з Беларусі і Літвы.

✔ У Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага пры падтрымцы Пасольства Латвійскай Рэспублікі адкрылася фотавыстаўка «Гукі музыкі Раймандa Паўлса», паведамляюць у БелТА. У фотаработах 18 удзельнікаў праекта паспрабавалі захаваць эмоцыі і імгненні, навеяныя музыкай маэстра. Выстаўка дапоўнена рэдкімі пласцінкамі 1970 — 1990 гадоў з запісамі песень Раймандa Паўлса з фондавых калекцый Музея гісторыі горада Мінска.

# СЛОВА ЖЫВОЕ — ЮНАЕ



*Юны чытальнік Багдан Цэхановіч, вучань школы № 2 Мар'інай Горкі.*

**Рэспубліканскі конкурс юных чытальнікаў «Жывая класіка» захапіў вучнёўскую моладзь і стаў самым масавым дзіцячым конкурсам у Беларусі апошнім часам.**

Больш за 13 тысяч выканаўцаў самых розных узростаў — ад пачаткоўцаў да выпускнікоў — выказвалі ўзнёслыя пачуцці ў аблічча герояў любімых твораў беларускай класікі.

Творчае спаборніцтва пачалося са школьнага этапу: пераможцы паказвалі майстэрства на ўзроўні раёна. А ў маі, падчас абласнога этапу, сталі вядомыя імёны тых, хто паедзе ў Полацк, каб здзівіць талентам усю краіну.

Фінальныя выступленні прымеркаваныя менавіта да Дня беларускага пісьменства. 1 верасня пераможцы — а іх 34 — выступяць у паўфінале. 2 верасня пройдзе фінал, дзе вырашыцца галоўная інтрыга конкурсу: аўтарытэтнае журы вызначыць лепшых з лепшых.

Лаўрэатаў «Жывой класікі» чакае галоўны прыз — паездка ў Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр «Зубраня». Лепшы чытальнік атрымае і абяцаную Саюзам пісьменнікаў Беларусі спецыяльную ўзнагароду. Да таго ж 3 верасня трое пераможцаў выйдуць на галоўную сцэну свята разам з удзельнікамі грандыёзнага праекта СТБ «Залатая калекцыя беларускай песні». Канал СТБ падрыхтуе тэлевізійную версію праекта, якую пабачыць уся краіна.

Пра важнасць конкурсу і яго грамадскае гучанне гаварылі арганізатары падчас прэс-канферэнцыі, якая днямі ладзілася ў прэс-цэнтры Дома прэсы. Намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алесь Карлюкевіч падкрэсліў, што «Сталічнае тэлебачанне» надало конкурсу новы медыйны статус: не толькі падрыхтаваны інфармацыйныя тэлевізійныя паведамленні — сярод арганізатараў «Сталічнае тэлебачанне» яшчэ вылучае гэты конкурс у фармат новага праваздзення. Усе ўдзельнікі жадаюць стаць тэлезоркамі чытання.

Алена Стэльмах, першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, лічыць, што конкурс юных чытальнікаў «Жывая класіка» вяртае моладзь да вытокаў нацыянальнай літаратуры, узбагачае духоўны свет, фарміруе агульную культуру юных беларусаў і адначасова расквечвае літаратуру новымі яскравымі фарбамі.

**Марыя ЛІПЕНЬ**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Пра сяброўства — балгарскім пяром

Даўнія трывалыя пісьменніцка-перакладчыцкія стасункі звязваюць беларускіх і балгарскіх творцаў. Днямі ў госці да беларускіх калег па пяры завітаў паэт Найдзен Вылчаў. Сустрэча з ім адбылася ў сталічным Доме дружбы.

Найдзен Вылчаў — прадстаўнік таго пакалення пісьменнікаў, якое прыйшло ў літаратуру адразу пасля Вялікай Перамогі. Менавіта дзякуючы спадару Найдзену загучалі па-балгарску вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова ды іншых беларускіх паэтаў. Кніга яго лірыкі «Белая чайка», афармленая мастаком Барысам Заборавым, пабачыла свет у 1968 годзе ў выдавецтве «Беларусь» (над перакладамі вершаў на беларускую мову папрацаваліся Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч).

У паэзіі Найдзена Вылчава лірыка сплятаецца з гісторыяй. Гэты сінтэз яскрава адлюстраваны ў яго вершы «Беларуская рака» — пра Бярэзіну.

«Друг і другар... / Калі ёсць друг, які / вялікаю адлегласцю аддзелены, — / вялікаю надзеяй абнадзеены / ты на ўсе годы і на ўсе вякі…» Гэтыя радкі з верша Анатоля Вярцінскага «Балгары» — якраз пра міжнародную дружбу, пра стасункі з Найдзенам Вылчавым. А пазнаёміліся старэйшыны дзвюх літаратур яшчэ ў 1950-х!

— Памятаю, як восеньскай ноччу падымаўся на легендарную Шыпку (вяршыня ў Балканскіх гарах, на тэрыторыі Балгарыі. — **Я. Я.**). Там — кроў нашых дзядоў і прадзедаў, славянская кроў… Такія моманты ўзыходжання — і духоўнага таксама! — робяць нас бліжэй адзін да аднаго ў разуменні каштоўнасцей гэтага свету, — падкрэсліў вядучы вечарыны, паэт і перакладчык Мікола Мятліцкі.

— У культурах Беларусі і Балгарыі шмат агульных рыс. — Адна з іх — пhistoryстасць, «сяляпскасць», у якой увасоблены шчырыя добрасуседскія стасункі. Таму Найдзен Вылчаў — паэт-патрыёт, прычым патрыёт не толькі Балгарыі, але і Беларусі, — распавёў старшыня Таварыства дружбы «Беларусь — Балгарыя» Генадзь Цыхун.

Найдзен Вылчаў узгадаў, што ўпершыню прыехаў у Беларусь у 1961 годзе. Тут ён вывучаў гісторыю і культуру беларускага народа, а найперш — беларускую літаратуру. Вялікае ўражанне на яго зрабіла творчасць Васіля Быкава, які тады жыў і працаваў у Гродне. Менавіта Найдзен Вылчаў упершыню прадставіў прозу Быкава балгарскаму чытачу. Пазнаёміўся і з Іванам Мележам, Іванам Шамякіным, Уладзімірам Караткевічам…

Старшыня бюро секцыі перакладу СПБ, доктар філалагічных навук, прафесар Іван Чарота ўпэўнены: малых народаў, як і малых літаратур, не бывае. Не назавеш малой і літаратуру Балгарыі: надта ж складаны і адказны працэс перакладу, асэнсавання, вывучэння…

Захаваць, не зруйнаваць творчыя масты паміж літаратарамі Беларусі і Балгарыі, усё шырэй і глыбей асэнсоўваючы новыя перакладчыцкія гарызонты — вось сённяшняя задача маладога літаратурнага пакалення. Нястомна працуе ў гэтым рэчышчы Найдзен Вылчаў, праз уласную творчасць разгортваючы перад балгарскім чытачом энцыклапедыю беларускай душы.

**Яна ЯВІЧ**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**26 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай» у дзіцячую бібліятэку № 16. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**27 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай» у публічную бібліятэку № 5. Пачатак а 10.30.*

**28 чэрвеня** — *да помніка Янку Купалу на Вайсковых могілках з нагоды 75-й гадавіны смерці народнага паэта Беларусі. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**29 чэрвеня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак а 14.30.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**23 чэрвеня** — *на сустрэчу з дзіцячай пісьменніцай Кацярынай Хадасевіч-Лісавой у кнігарню «Кніжны свет» (г. Жодзіна). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**23 чэрвеня** — *на сустрэчу з паэтам Віктарам Кажурам «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся» ў аздараўленчы лагер «Сонейка» пры Вілейскай гімназіі № 2. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**27 чэрвеня** — *на занятак секцыі «Паэзія» вочна-завочнай школы «Са-Творчасць» у офіс Мінскага абласнога аддзялення СПБ. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**27 чэрвеня** — *на сустрэчу з пісьменніцай Святланай Быкавай у кнігарню «Спадчына-М». Пачатак а 12-й гадзіне.*

**27 чэрвеня** — *на сустрэчу з пісьменнікам Сяргеем Клімковічам у кнігарню «Слова». Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**23 чэрвеня** — *на прэзентацыю кнігі Марыі Кобец «Палыновая квецень» у Пінскую цэнтральную раённую бібліятэку імя Я. Янішчыц. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**23 чэрвеня** — *на літаратурнае свята, прымеркаванае да Дня горада, з удзелам паэтаў Тамары Красновай-Гусачэнкі, Ірыны Радзіхоўскай, Вольгі Русілкі, Мікалая Наменнікава, Алёны Фядзяевай і юных пераможцаў літаратурных конкурсаў 2017 года ля помніка А. С. Пушкіну. Пачатак а 14.30.*

**24 чэрвеня** — *на свята газеты «Віцьбічы» з удзелам Тамары Красновай-Гусачэнкі на плошчу Перамогі. Пачатак аб 11.30.*

**24 чэрвеня** — *на конкурс паэзіі і песні ў г. п. Ліёзна «Сунічныя паляны» з удзелам Тамары Красновай-Гусачэнкі. Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**23 чэрвеня** — *у літаратурную вандроўку «Пакуль ёсць Купала — будзе народ, а значыць, і песня, і позірк цудоўны», прымеркаваную да 135-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы з удзелам гомельскіх літаратараў, у філіял № 5 Гомельскай цэнтральнай бібліятэкі імя А. І. Герцэна. Пачатак аб 11.30.*

**29 чэрвеня** — *на сустрэчу з лаўрэатам абласной літаратурнай прэміі Наталляй Шастаковай «Цудоўная сустрэча з Варкай» у філіял № 15 Гомельскай цэнтральнай бібліятэкі імя А. І. Герцэна. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**29 чэрвеня** — *у Літаратурна-музычны салон з удзелам сяброў аддзялення ў Гомельскую абласную ўніверсальную бібліятэку імя У. І. Леніна. Пачатак а 18-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**23 чэрвеня** — *на міжнародную акцыю — ушанаванне памяці бязвінных ахвяр, загінулых у полымі спаленых вёсак на Магілёўскай зямлі ў часы Вялікай Айчыннай вайны ў Мемарыяльны комплекс в. Боркі Кіраўскага раёна. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**25 чэрвеня** — *на адкрыццё памятнага знака воінам штрафных падраздзяленняў Чырвонай Арміі, якія загінулі на рацэ Проня ў Чавускім раёне ў 1943-1944 гадах, у в. Драніха Чавускага раёна). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**26 чэрвеня** — *на раённы фестываль маладых талентаў «Слаўлю цябе, Горацкі край!» у г. Горкі. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**27 чэрвеня** — *у СШ № 2 г. Быхава на ваенна-патрыятычную гадзіну «У імя жыцця на зямлі», прысвечаную вызваленню раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у часы Вялікай Айчыннай вайны. Вядучы — пісьменнік Мікола Леўчанка. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**28 чэрвеня** — *на мітынг, прысвечаны вызваленню Быхаўскага раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, у в. Лудчыцы Быхаўскага раёна). Пачатак а 10-й гадзіне.*

# Тэатральны ўікэнд у Нясвіжы

**Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі ў сёмы раз запрашае гледачоў далучыцца да музычнага праекта «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў». Гэтым разам летняя рэзідэнцыя магнатаў адчыняе дзверы для наведнікаў з 23 па 25 чэрвеня.**

Закрыццё тэатральнага сезона Вялікага тэатра Беларусі ў сценах Нясвіжскага палаца стала традыцыйным. Рэзідэнцыя Радзівілаў, вядомых мецэнатаў і прыхільнікаў мастацтва, штогод на некалькі дзён пераўтвараецца ў гістарычныя дэкарацыі да оперных спектакляў, балетаў і канцэртаў класічнай музыкі — добрая нагода сумясціць тэатральны вечар з экскурсіяй па старажытных мясцінах.

У праграме фестывалю — спектаклі і канцэрты ў гарадской Ратушы, ва ўнутраным двары і Тэатральнай зале замка, а таксама ў касцёле Божага Цела — адным з найпрыгажэйшых барочных касцёлаў Еўропы. Распачне праграму канцэрт Віктара Скорабагатава «Беларускі класіцызм», дзе прагучаць творы Вольфганга Амадэя Моцарта, Іагана Абрахама Петэра Шульца, Ёзэфа Гайдна, Юзэфа Казлоўскага, Яна Давіда Голанда і Юзэфа Дашчынскага. Папулярны балет «Жызэль, або Вялісы» працягне выступы першага дня мерапрыемства. Імпрэзы другога дня аб'яднаны тэмай кахання: у тэатральнай зале замка Радзівілаў пройдзе канцэрт рускіх і французскіх рамансаў, неапалітанскіх песень, інструментальнай музыкі і прэм'ерная опера П'етра Масканьі «Сельскі гонар» (дырыжор — заслужаны артыст Украіны Віктар Пласкіна).

Напрыканцы маштабнага праекта госці ўбачаць оперу Гаэтана Даніцэці *«VIVA LA MAMMA!»* («Тэатральныя парадкі і беспарадкі») у пастаноўцы Алены Медзяковай (дырыжор Іван Касцяхін). Фінальным акордам «Вечароў Вялікага тэатра» стане гала-канцэрт «Радзівілаўскі баль» — сапраўдны *open-air* ад Вялікага тэатра ва ўнутраным двары Нясвіжскага замка.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



*Фота з архіва Вялікага тэатра Беларусі.*

*Канцэрты ў Нясвіжы — новая традыцыя Вялікага тэатра Беларусі.*

# МЫ ПАЧЫНАЕМ СВОЙ ШЛЯХ...

**У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў да ўсяго падыходзяць творча, у тым ліку і да выпускных іспытаў. Ужо другі год запар студэнты кафедры мастацтва эстрады факультэта музычнага мастацтва выступаюць на гарадскім справаздачным канцэрце-экзамене «Мы пачынаем свой шлях».**

— Падобная форма дзяржаўнага іспыту практыкуецца штогод на кожнай кафедры нашага факультэта, — распавядае выконваючая абавязкі загадчыка кафедры мастацтва эстрады Таццяна Дробышава. — Але летась я прапанавала рэктару Юрыю Бондару прыцягнуць аркестр і выйсці на ўзровень горада, каб студэнты змаглі паўнавартасна пагрузіцца ў прафесійную атмасферу. Пляцоўкай стаў клуб імя Дзяржынскага, любы ахвотны можа прыйсці ў дні іспытаў: уваход вольны. Гэта спрыяе прыцягненню абітурыентаў, якія яшчэ не вызначыліся з прафесіяй.

У 2016 годзе такая форма здачы іспытаў была апрабавана на вакалістах, а ў 2017 да іх далучыліся інструменталісты: цяпер у канцэрце аб'яднаны выпускнікі ўсяго факультэта. Акрамя таго, на бэк-вакале выступаюць навучэнцы малодшых курсаў, а танцавальны складнік нумароў сёлета забяспечылі студэнты кафедры харэаграфіі факультэта традыцыйнай беларускай культуры і сучаснага мастацтва. Пастаноўку нумароў робяць выкладчыкі.

Падчас іспыту кожны студэнт павінен выканаць 4 кампазіцыі: адну — беларускага кампазітара, другую — у канцэртна-тэатральным жанры (рок-опера, мюзікл і г.д.), трэцюю — на мове раманскай або германскай груп і чацвёртую — на славянскай мове. Такім чынам моладзь рыхтуюць да ўдзелу ў конкурсах на ўзроўні Еўропы (міжнародны конкурс эстраднай песні «Еўрабачанне») і Беларусі (міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску»).

— У ліпені ў Віцебску, на конкурсе выканаўцаў эстраднай песні, Беларусь прадставіць наш трэцякурснік Ягор Шаранкоў, — адзначыла Таццяна Дробышава. — А наконт выпускнікоў хочацца дадаць: сёлета мы размеркавалі ўсіх, у тым ліку і тых, хто вучыўся платна і выказаў такое жаданне.

Акрамя справаздачнага канцэрта творчай рэалізацыі студэнтаў спрыяе праца ў буйных праектах універсітэта, у прыватнасці, мюзіклы «Дуброўскі» і «Казанова», пастаўленыя сумесна з расійскім кампазітарам і прадзюсарам Кімам Брэйтбургам. Таксама «Сем таямніц Беларусі» са снежня 2016-га ідуць штомесяц у Рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў пры падтрымцы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Гэты праект дазваляе акунуцца ў гісторыю, культуру, традыцыі і побыт беларускага народа. Ва ўсіх пастаноўках студэнты могуць браць удзел і пасля выпуску.

**Шура ГРАМЫКА**

## ЛіМ-каляндар

**19 чэрвеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Пятро Бітэля (1912 — 1991), беларускага паэта, перакладчыка.

**19 чэрвеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Вацлава Окалава (1912 — 1969), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

**20 чэрвеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Паплаўскага (1912 — 1984), беларускага харавога дырыжора, кампазітара, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**20 чэрвеня** 75-годдзе адзначыў Сяргей Давідовіч, паэт, мастак, дзіцячы пісьменнік.

**22 чэрвеня** — 80 гадоў з дня нараджэння Барыса Аліфера (1937 — 2014), беларускага кінааператара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**22 чэрвеня** 70-гадовы юбілей адсвяткаваў Уладзімір Максімаў, беларускі мастак-плакатыст, графік, афарміцель.

**23 чэрвеня** 75 гадоў адзначыла Аліса Мароз, беларускі мастак-акварэліст.

**24 чэрвеня** — 240 гадоў з дня нараджэння Яна Ходзькі (1777 — 1851), беларускага пісьменніка, драматурга, грамадскага дзеяча.

**24 чэрвеня** — 110 гадоў з дня нараджэння Язэпа Зазекі (1907 — 1977), беларускага празаіка, літаратуразнаўца, фалькларыста.

**24 чэрвеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Крука (1927 — 2008), беларускага фотамайстра.

**25 чэрвеня** — 125 гадоў з дня нараджэння Зігмунта Абрамовіча (сцэнічнае імя Антон Забель; 1892 — 1988), беларускага акцёра.

## Ідзе падпіска на II паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | 4 р. 50 к. | 63856 |
| Ведамасная падпіска | 12 р. 70 к. | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | 3р. 00 к. | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | 9 р. 60 к. | 63880 |

## Дайджэст

• Ізраільскія фізікі расшыфравалі адзін з самых старажытных біблейскіх рукапісаў часоў Першага храма. Выкарыстоўваючы мультыспектральныя сістэмы вытворчасці фотаздымкаў, навуковец Майкл Кардонскі заўважыў, што на адвароце манускрыпта таксама прысутнічаюць літары і знакі. Там аказаліся тры новыя радкі тэксту. Рукапісы былі знойдзеныя больш за 50 гадоў таму пры раскопках у старажытнай крэпасці Тэль-Арад на поўдні Ізраіля. Новы тэкст пачынаецца з запыту на пастаўку віна, а таксама запэўніваннях у тым, што аўтар ліста дапаможа адрасату, калі ў таго з'явяцца нейкія асабістыя заказы. Тэкст завяршаецца просьбай перадаць нейкі тавар неназванай асобе і згадваннем таго, што посуд з віном знаходзіцца ў распараджэнні чалавека па імені Геаліяху. Цяпер навукоўцы плануюць правесці даследаванне іншых манускрыптаў і гліняных таблічак, знойдзеных на тэрыторыі Ізраіля ў апошнія дзесяцігоддзі.

• Адмыслова да дня нараджэння Васіля Быкава выдадзены графічны раман «Сваякі». Ён створаны мастаком Янам Жвірблем паводле аднайменнага апавядання Васіля Быкава. Кніга пабачыла свет у выдавецтве «Кнігазбор». Графічныя раманы ілюструюць сур'ёзныя літаратурныя творы і ў адрозненне ад коміксаў яны большага аб'ёму, выдаюцца ў палепшаным афармленні. Выходзяць і аўтарскія графічныя раманы, якія разглядаюцца як паўнавартасныя літаратурныя творы. Так, у 1992 годзе графічны раман Арта Шпігельмана «Маус» пра халакост атрымаў Пулітцараўскую прэмію. Жорсткі твор Васіля Быкава пра тое, як маці, паспадзяваўшыся на сваяцтва з вясковым паліцаем, адпраўляе сыноў на смерць, праілюстраваны гэтак жа бязлітасна. Экспрэсіўныя, натуралістычныя і поўныя трагізму малюнкі нагадваюць, што гэта зусім не просценькі комікс для дашкольнікаў, а паўнавартасны графічны раман.

• Сталі вядомыя вынікі міжнароднай прэміі Еўракон-2017. У намінацыі «Крызаліс», якую ўручаюць дэбютантам, суддзі адзначылі аўтара беларускага фэнтэзі Аляксея Шэіна за падлеткавы раман «Сем камянёў». Дадзеная ўзнагарода ўручаецца з 1972 года Еўрапейскім таварыствам навуковай фантастыкі *(European Science Fiction Society)*, куды ўваходзяць як прафесійныя пісьменнікі-фантасты, так і аматары фантастыкі. Цяпер у *ESFS* уваходзяць 22 еўрапейскія краіны.

• Гурт *«RE1IKT»* прэзентаваў песню, напісаную паводле апавядання Міхася Зарэцкага «Паэма пра чорныя вочы». Песня створаная адмыслова для праекта «(Не)расстраляная паэзія», што прысвечаны беларускім творцам, расстраляным 80 гадоў таму. Праект аб'ядноўвае беларускіх музыкаў, якія ператвараюць творы часоў Расстралянага Адраджэння ў песні. Усе песні з праекта будуць прэзентаваныя цягам восені на партале *«TuzinFM»*. 29 кастрычніка пройдзе канцэртная прэм'ера «(Не)расстралянай паэзіі», падчас якой прагучаць 12 песень на вершы паэтаў 1930-х і на музыку сучасных аўтараў. У межах праекта таксама пройдуць адкрытыя лекцыі пра паэтаў і будуць выдадзены маўклівыя кнігі — нататнікі з іх вывамі ды цытатамі.

# КУРГАНЫ І ХРАМЫ ВІЦЕБШЧЫНЫ



*Падарожнік Юрый Жыгамонт ля касцёла ў Відзах.*

**Лета — час падарожжаў, і адмыслова для чытачоў «ЛіМа» знакаміты беларускі падарожнік Юрый Жыгамонт узгадвае самыя адметныя вёскі і мястэчкі нашай краіны. Спадзяёмся, падрыхтаваная серыя публікацый натхніць на новыя вандроўкі. Шануючы старажытны Полацк, найперш выпраўляемся ў Віцебшчыну.**

## 1. ЛЯВОНПАЛЬ (МІЁРСКІ РАЁН)

Лявонпаль — адна з самых знакамітых вёсак Віцебшчыны. У 1740-х гадах яна стала ўласнасцю Мікалая Лапацінскага, пракурора Вялікага Княства Літоўскага, які пазней стаў ваяводам берасцейскім і даволі ўплывовым палітыкам. Сядзібу для гаспадара пабудаваў італьянскі дойлід у модным на той час барочна-ракайльным стылі. Лявонпальская сядзіба праславілася на ўсё княства. Мікалай Лапацінскі перавёз сюды фамільны архіў, бібліятэку і мастацкую калекцыю, разбіў аранжарэі, дзе раслі ананасы, лімоны і шмат іншай экзотыкі. Сын Мікалая, Ян Нікадзім Лапацінскі, пашырыў сямейную калекцыю і стварыў у сядзібе сапраўдны музей. Таксама ў Лявонпалі была заснаваная друкарня, абсталяваны фізічны і хімічны кабінеты, тут выраблялі капелюшы, дзейнічала адна з першых у рэгіёне ткацкая фабрыка.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай па Дзвіне прайшла мяжа з Расійскай імперыяй, і Лявонпаль стаў памежным мястэчкам. Калі ў 1791 годзе была прынятая Канстытуцыя Рэчы Паспалітай, Ян Нікадзім загадаў паставіць над Дзвіною высачэзны слуп — як сімвал свабоды і знак таго, што людзі тут жывуць незалежныя і вольналюбівыя.

Палац Лапацінскіх на працягу ХХ стагоддзя быў і касцёлам, і сельскагаспадарчым тэхнікумам — і такі захаваўся да нашага часу. Ёсць у Лявонпалі і старая драўляная царква, пабудаваная ў 1774 годзе як уніяцкі храм. У сярэдзіне ХІХ ст. яна была перададзеная праваслаўным. Тады ж было загадана спілаваць дзве вежы, якія ўздымаліся над храмам. Замест іх пабудавалі праваслаўны купал. У такім выглядзе Свята-Троіцкая царква дайшла да нашых дзён.

## 2. ДРУЯ (БРАСЛАЎСКІ РАЁН)

Упершыню Друя ўзгадваецца ў 1386 годзе ў «Хронікы…» Мацея Стрыйкоўскага. Горад-замак належаў вялікім князям літоўскім, але ў 1496 годзе князь Аляксандр падараваў Друю князям Масальскім і надаў мястэчку прывілей на вольны гандаль па Дзвіне.

Друя стала значным гандлёва-рамесніцкім цэнтрам, і ў 1619 годзе атрымала Магдэбургскае права дзякуючы клопату новага ўладальніка — канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі. Сапегам належала толькі частка мястэчка, якую яны назвалі Сапежын. Частка Друі і цяпер мае такое найменне.

За ўсю гісторыю тут было пабудавана больш за 20 храмаў. Асабліва прыгожым быў комплекс друйскага кляштара дамініканцаў, які ўзвёў у першай палове XVIII стагоддзя італьянскі архітэктар Антоній Парака. Але з тых часоў у мястэчку захавалася толькі невялічкая драўляная царква на старых могілках, а таксама Касцёл Найсвяцейшай Троіцы і кляштар бернардзінцаў, пабudаваныя ў 1644 годзе сынам Льва Сапегі Казімірам.

У 1923 годзе тут быў заснаваны першы ў гісторыі беларускі кляштар айцоў марыянаў. Усе манахі маліліся і гаварылі паміж сабою толькі па-беларуску. Ідэя стварэння такога кляштара належала беларускаму епіскапу Юрыю Матулевічу, які лічыў, што народ лепш зразумее закон Божы, калі будзе вывучаць яго на роднай мове. Дзякуючы Матулевічу марыяне заснавалі і беларускую гімназію імя Стэфана Баторыя. Неўзабаве Друя стала беларускім рэлігійным цэнтрам, але польскім уладам гэта не падабалася, і гімназію Стэфана Баторыя хутка закрылі. А Юрыя Матулевіча ў 1987 годзе далучылі да ліку святых...

## 3. ВІДЗЫ (БРАСЛАЎСКІ РАЁН)

У цэнтры Відзаў уздымаецца славуты Троіцкі касцёл, пабудаваны ў 1914 годзе ў стылі неаготыкі. Храм быў моцна пашкоджаны падчас дзвюх сусветных войнаў, але мясцовыя жыхары яго настойліва аднаўлялі.

Калі мераць па вежах, то Відзаўскі касцёл — самы высокі ў Беларусі. Калі ж мераць па крыжах, найвышэйшым будзе касцёл у Гервятах (таксама асвечаны ў гонар Найсвяцейшай Троіцы). Па крыжах вышыня Відзаўскага касцёла — 59 метраў, а Гервяцкага — 61 метр.

Відзы мелі розных уладальнікаў, і ў XVIII ст. шмат дамоў у мястэчку належала шляхцічам Ваўжэцкім. Па адной з версій, тут і нарадзіўся паплечнік Тадэвуша Касцюшкі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 года Тамаш Ваўжэцкі. Памёр Ваўжэцкі ў 1816 года ў Варшаве, а пахавалі яго на Бацькаўшчыне, у Відзах.

Пра нацыянальна-вызваленчы рух нагадвае і паўразбураная каталіцкая капліца, якая захавалася на выездзе з Відзаў у бок Відзаў-Лаўчынскіх. Яна была пастаўлена ў 1861 годзе, і яе сцены памятаюць паўстанцаў Каліноўскага, хлопцаў-касінераў.



*Касцёл Святой Веранікі ў Селішчы.* Фота Генадзя Зайца.

Відзы былі шматканфесійным мястэчкам. Адначасова з Троіцкім касцёлам у Відзах будавалася стараверская Успенская царква. Разам з каталікамі і праваслаўнымі жылі пратэстанты, іўдзеі, мусульмане. Таму ля мястэчка ёсць яўрэйскія і татарскія могілкі, якія часткова захаваліся да нашага часу. Каб адчуць сябе сам-насам з вечнасцю, можна пайсці ў горы, а можна і паблукаць па старых вялікіх могілках...

## 4. СЕЛІШЧА (УШАЦКІ РАЁН)

На месцы гэтай вёскі людзі жывуць з даўніх часоў, пра што сведчаць курганы побач з могілкамі. На сёння тут захавалася каля 50 курганоў. Падчас археалагічных раскопак у курганах знайшлі нажыкі, гліняны посуд, шкляныя пацеркі і нават бранзалет са стылізаванымі звярынымі галоўкамі. Археолагі выказалі думку, што гэтыя курганы балта-славянскія, кажучы папросту — крывіцкія.

Мясціны тут прыгожыя, азёрныя. Людзі, каб спыніцца на жытку, заўсёды выбіралі месца да душы. У XVII стагоддзі Селішча ўпадабалі і манахі-бернардзінцы. У 1726 годзе ўладальнік вёскі Язафат Сялява разам з сябрам Янам Рагозам пабудавалі для бернардзінцаў цагляныя кляштар і касцёл. Касцёл быў асвечаны пад тытулам святой Веранікі. Па архітэктуры храм паўтараў знакаміты касцёл езуітаў, які быў у Полацку, але не захаваўся.

Сёння напаўразбураны касцёл Святой Веранікі — адзін з нешматлікіх на Беларусі помнікаў эпохі барока. Некалі храм быў вельмі прыгожым усярэдзіне. Паміж калон у алтарах стаялі скульптуры святых. А на хорах месціўся арган, як сказана ў старых кнігах, дзіўнай прыгажосці, такога аргана не бачылі ні ў адным касцёле.

Уладальнікі Селішча жылі ў сядзібе недзе за паўтара кіламетра ад мястэчка — там, дзе сёння машынны двор. Ад панскай сядзібы захавалася некалькі гаспадарчых будынкаў.

## 5. ЛУЖКІ (ШАРКАЎШЧЫНСКІ РАЁН)

У XVI — XVII стст. Лужкі належалі слаўнаму беларускаму роду Сапегаў. А ў першай палове XVIII ст. вёску набыў харунжы гусарскай харугвы, пасол на соймы, кашталян брэсцкі і полацкі Валерыян Жаба.

Ён прывёз сюды рамеснікаў, вызваліў іх ад прыгону, надзяліў зямлёй і пэўнымі льготамі. У 1745 годзе Лужкі атрымалі статус мястэчка і сталі рамесніцкім цэнтрам акругі. Праз некалькі гадоў Жаба запрасіў сюды манахаў-піяраў. Галоўнай мэтай піяраў было выхаванне і навучанне моладзі, дзеля чаго яны стварылі калегіумы, дзе можна было атрымаць выдатную адукацыю. Да піярскага калегіума ў Лужкі ехалі з розных куткоў цяперашніх Беларусі, Літвы, Латвіі, Украіны...

Побач з калегіумам распачалося будаўніцтва касцёла. Гэты касцёл, асвечаны ў гонар Святога Архангела Міхаіла, — помнік архітэктуры віленскага барока. Калі б сцены яго загаварылі, мы б шмат даведаліся пра даўнія падзеі. Асабліва пра паўстанне 1831 года.

Менавіта Лужкі сталі цэнтрам паўстання ў Дзісненскім павеце. Але пасля паразы паўстання кіраўнікоў лужкоўскага камітэта Валенція Брахоцкага і Адама Татура расстралялі. Касцёл перадалі праваслаўным, пазней перабудавалі пад царкву. Падчас паўстання згарэла уніяцкая царква, пабудаваная на грошы ўсё таго ж Валерыяна Жабы. Але уніяты яе аднавілі. У 1839 годзе царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы была перададзеная праваслаўным вернікам і з таго часу ніколі не закрывалася.

Лужкі былі тыповым беларускім мястэчкам, дзе побач стаялі касцёл, царква і сінагога. Сінагога не захавалася, але засталіся старыя яўрэйскія дамы. У адным з вельмі падобных да іх нарадзіўся Лазар Перэльман, які атрымаў адукацыю ў Лужках. Захаваліся сцены школы, дзе вучыўся чытаць маленькі Лазар. Той самы, якога ўвесь свет ведае пад імем Эліэзера Бен-Іегуды. Бацька іўрыту, дзяржаўнай мовы сучаснага Ізраіля.

## 6. НОВЫ ПАГОСТ (МІЁРСКІ РАЁН)

Да 1818 года цяперашнія вёскі Новы Пагост і Стары Пагост былі адным маёнткам. З пісьмовых крыніц Пагост вядомы з XV стагоддзя як месца збору даніны. У 1593 годзе ён стаў уласнасцю Льва Сапегі, і Сапега адразу ж выдаў фундуш на будаўніцтва святога касцёла. Касцёл быў драўляны — ён гарэў, адбудоўваўся і прастаяў больш за 100 гадоў, пакуль у 1766 годзе ксёндз Песляк не вырашыў узвесці новы дзвюхвежавы касцёл у гонар Святой Троіцы. Адрэстаўраваны і пашыраны, храм і сёння збірае вернікаў. У 1879 годзе ў вёсцы з'явілася і новая мураваная праваслаўная царква ў гонар Мікалая Цудатворцы, якая захавалася да нашых дзён.

У свой час пра Стары і Новы Пагост пісаў Вацлаў Ластоўскі, які хлапчуком бегаў тут па вясковых вулках. У 1910 годзе ў Новым Пагосце нарадзіўся славуты беларускі дырыжор і кампазітар Генадзь Цітовіч. Абодва любілі беларускую народную песню. Іх намаганнямі старадаўнія спевы, народжаныя на гэтай зямлі, дайшлі да нас праз стагоддзі.

**Падрыхтавала Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Шырэй за адну геаграфію і адну нацыю

***Сёлета шмат гаворыцца пра гісторыю беларускага кнігадрукавання. З'яўляюцца акадэмічныя даследаванні, з якіх вынікае: вывучэнне гісторыі айчыннай кнігі — працэс бясконцы. Сімвалічна, што ў год святкавання 500-годдзя скарынаўскай Бібліі і 950-годдзя Мінска мы маем грунтоўнае навуковае выданне «Кніжная справа ў Мінску (канец XVIII — пачатак XX стагоддзя)». Бачаннем перспектыў вывучэння кніжнай справы з чытачамі «ЛіМа» падзялілася аўтар манаграфіі — прафесар кафедры тэорыі і гісторыі інфармацыйна-дакументных камунікацый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Ларыса Доўнар.***



*Ларыса Доўнар.*

## Кніжны сусвет

Мая кніга — гэта спроба асвятлення ў цэлым комплексе з'яў кніжнай справы: кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання, кнігазбірання ў адным лакальным цэнтры, Мінску, які адначасова быў звязаны з цэлым кніжным сусветам. І не толькі мінскія кнігагандляры мелі цесныя стасункі з такімі найважнейшымі кніжнымі цэнтрамі, як Вільня, Варшава, Кракаў, Пецярбург, але і звычайныя чытачы, якія афармлялі падпіску на тыя ці іншыя выданні, а таксама і мінскія выдаўцы, якія шукалі лепшыя на той час паліграфічныя магчымасці друку. Напрыклад, шэраг мінскіх нотных выданняў пачатку 1860-х гг., у большасці якіх аўтарамі і кампазітарамі выступалі ўраджэнцы Міншчыны, друкавалася ў Лейпцыгу на сродкі вядомага мінскага кнігара Аляксандра Валіцкага. Такім чынам, паняцце мінскага кнігавыдання шырэйшае за паняцце мінскага кнігадрукавання.

## Першая мінская кніга

На сёння ў якасці пачатку мінскага кнігавыдання мы можам вылучыць 1790 год, але ёсць і яшчэ адна, хаця ў пэўным сэнсе і спрэчная, дата — 1622 год. Гаворка пра «Казанне на смерць Аляксандра Фёдаравіча Шаптыцкага», надрукаванае мінскім ігуменам Паўлам Дамжывам Лютковічам. Лютковіч быў звязаны з кнігавыдавецкай дзейнасцю праваслаўных брацтваў найперш у Вільні, але найболей — ва Украіне. На тытульным лісце «Казання…», якое захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве, няма дакладнай пазнакі аб тым, дзе яно было надрукавана, але адзначана, што «*...през отца Павла Домжива Лютковича игумена менского отправованое месяца декабря 20 дня в року 1622*». Лютковіч — адзін з заснавальнікаў Петрапаўлаўскага манастыра ў Мінску, узначальваў праваслаўнае брацтва і школу пры ім. Магчыма, ужо ў 1618 годзе ён займеў уласны друкарскі варштат, з якім і выпраўляўся ў свае «друкарския вандроўкі». «Казанне…» ж сведчыць пра тое, што друкарская справа была запатрабавана ў Мінску ўжо ў пачатку XVII стагоддзя. Ёсць і іншыя факты, якія ўскосна пацвярджаюць такія высновы. У горадзе дзейнічалі не толькі праваслаўныя брацтвы і школы, сваю асвету і адукацыю разгортвалі таксама базыльяне, а ўсім былі патрэбныя кнігі, якія або завозіліся, або друкаваліся тут… Так, з таго часу амаль нічога не захавалася, па сутнасці, «Казанне…» — адзіная вядомая на сёння друкаваная кніга таго часу, звязаная з Мінскам. Трэба мець на ўвазе таксама, што першая палова XVII стагоддзя вельмі насычаная рознымі ваеннымі падзеямі, таму вынікі друкарскай дзейнасці маглі быць папросту знішчаныя...

Аднак калі весці гаворку пра дакладную і пацверджаную ўласна мінскай друкаванай прадукцыяй дату, то гэта, безумоўна, 1790 год: адно з першых, а можа, і ўвогуле першае выданне, пазначанае гэтым годам, — «Праблема, прапанаваная для вырашэння, ці Чым бывае душа больш усхвалявана, радасцю ці смуткам?» («*Kwestya podana do rozwiązania, czyli Dusza bardziey bywa wzruszona przez roskosz; czyli też przez smutek*»), ажыццёўленае знакамітым аўтарам Ігнацыем Быкоўскім у друкарні мінскіх базыльян. У «Квестыі…», апроч дакладаных выходных дадзеных, прыведзена інфармацыя і пра тое, якія творы гэтага аўтара рыхтуюцца да друку. Рэпрадукцыю «Квестыі…» мае ў сваіх фондах Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі. Астатнія бызыльянскія выданні 1790 — 1794 гг., хутчэй за ўсё, знаходзяцца за межамі Беларусі, нейкая частка з іх адшуканая, а нешта застаецца пакуль невядомым і існуе толькі ў выглядзе бібліяграфічных апісанняў.

## Вільня, Варшава, Пецярбург

Праз сувязі з іншымі кнігавыдавецкімі цэнтрамі мы бачым жыццё кнігі не столькі ў статыцы, колькі ў дынаміцы. Вільня доўгі час заставалася гісторыка-культурным, а таксама кніжным цэнтрам Беларусі. Гэта відаць нават і з пераліку тых выданняў, якія замаўляліся мінскімі кнігагандлярамі і на якія падпісваліся чытачы. Безумоўна, вельмі моцнай была польская культурная традыцыя, але адметная «вялікакняская» краёвасць таксама прысутнічала. На «Кур'ер віленскі», напрыклад, падпісваліся болей, чым на «Кур'ер варшаўскі». Супрацоўніца філіі кнігарні Вацлава Макоўскага ў Мінску, якая адсочвала попыт чытачоў, лічыла мінскую публіку даволі кансерватыўнай, бо найбольш запатрабаванай нязменна заставалася мастацкая і духоўная, рэлігійная літаратура.

Вывучэнне кніжных сувязяў важна яшчэ і для таго, каб паказаць, што Мінск, якім бы правінцыйным ні быў, адкрываўся як мог новаму кніжнаму свету, ствараў прастору кнігі і кніжнай справы. Свая друкаваная прадукцыя з'явілася тут напрыканцы XVIII стагоддзя, але да гэтага часу кніга, безумоўна, прыходзіла ў Мінск рознымі шляхамі: дзякуючы «мабільным» ці рухомым (вандроўным) кнігарням, праз падпіску на друкаваныя выданні з Вільні, Пецярбурга, Варшавы, а таксама праз прыватныя сувязі паміж калекцыянерамі.

## Неправінцыйныя густы правінцыі

Галоўным каналам распаўсюду кніг у Мінску ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя з'яўляліся кантрактавыя кірмашы, якія арганізоўваліся два разы на год: у сакавіку і на дзясяты дзень пасля Вялікадня (пасля 1830 года — адзін раз, з 25 мая па 25 чэрвеня). Самыя славутыя літоўскія кантрактавыя кірмашы ладзіліся ў Мінску і Навагрудку, куды з'язджалася шляхта, каб абмеркаваць важныя дзяржаўныя пытанні.

У віленскім і варшаўскім перыядычным друку загадзя змяшчаліся аб'явы пра час і месца правядзення «кантрактавых кірмашоў». Што цікава: да гэтай падзеі адмыслова выдаваліся кнігагандлёвыя каталогі, якія сведчаць пра тое, што кнігі на польскай, лацінскай, французскай, нямецкай мовах мелі сталае распаўсюджанне на тэрыторыі Беларусі. Яскравым прыкладам служыць дзейнасць у гэтым кірунку вядомага варшаўскага кнігагандляра і выдаўца Міхала Гроля, друкаваныя каталогі якога пацвярджаюць, што асартымент кніжнай прадукцыі для сталіцы (Варшавы) і правінцыі (Мінска) у XVIII стагоддзі нічым не адрозніваўся. Наўрад ці паспяховы кнігагандляр стаў бы выдаткоўваць сродкі на выданне асобных каталогаў для кірмашоў у Мінску і Навагрудку, калі б кніжны гандаль у гэтых гарадах не прыносіў прыбытку.

Віленскі выдавец і кнігар Юзаф Завадскі, а потым і яго сыны ў першай палове XIX ст. бралі ўдзел у кантрактавых кірмашах у Мінску, разгарнулі цэлую сетку кніжнага гандлю па ўсёй Беларусі, вялі шырокую перапіску з заказчыкамі, дасылаючы кнігі кожнаму ахвотнаму, у любыя мястэчкі, а гэта яшчэ болей падмацоўвае думку, што і ў Мінску было нямала зацікаўленай у кніжнай прадукцыі публікі.

## Рэінкарнацыя горада і кнігі

Так, безумоўна, жыццё Мінска было няпростым у розныя перыяды, часта складаліся сітуацыі, неспрыяльныя для развіцця кніжнай справы. Але горад аднаўляўся і ў тым ліку дзякуючы кнізе, якая была запатрабаваная рознымі асяродкамі, найперш рэлігійнымі і адукацыйнымі. Так, сорак гадоў жорсткай русіфікацыі (пасля падаўлення паўстання К. Каліноўскага) практычна выціснулі разнамоўныя кніжныя выданні. У 1864 — 1880 гадах Мінск знаходзіўся на ваенным становішчы, і ў гарадскім кнігадрукаванні гэта знайшло адлюстраванне: нібыта запанавала ціша ў горадзе, адбыўся рэзкі спад выпуску кніжнай прадукцыі, асабліва што датычыць прыватных друкарняў, хаця і губернская друкарня таксама выдавала значна менш кніг.

Але разам з тым Мінск паступова ўключаецца ў прамысловыя праекты: з развіццём чыгункі — Лібава-Роменскай і Маскоўска-Брэсцкай — з'яўляюцца і новыя камунікацыйныя магчымасці для кнігі, друк ажыўляецца.

У 1880 — 90-я гады актыўную кніжную дзейнасць разгарнула Соф'я Валіцкая — сястра вядомага кнігара Аляксандра Валіцкага. Пасля вяртання з высылкі ў 1867 г. Мінск быў для яго забаронены, ён жыў у Варшаве, Кракаве, працаваў у Нясвіжскім замку Радзівілаў. Ліставанне паміж братам і сястрой вельмі паказальнае для характарыстыкі развіцця кніжнай культуры ў Мінску. У гэты час працавалі таксама і некалькі прыватных сямейных друкарняў, сярод іх вылучаецца прадпрыемства Дворжацаў, нашчадкаў Ёкеля Дворца, які разам з кнігарамі братамі Бейлінымі ажыццявіў выданне ў Мінску беларускамоўных твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча («Гапон» (1855)), таксама накладам Дворца выйшлі і іншыя — «Вечарніцы і Апантаны» (1855), «Цікавішся? — Прачытай!» (1856), «Дудар беларускі» (1857).

## Ускосная цэнзура

Творы Дуніна-Марцінкевіча — гэта адзіныя беларускамоўныя выданні. Дагэтуль кнігі на беларускай мове ў Мінску не выходзілі. Распаўсюджана думка, што беларуская мова ў Расійскай імперыі была забароненая. Так і не так. Калі пачнём шукаць дакумент (як рабіў гэта Аляксандр Шлюбскі), у якім было б пазначана, што выкарыстанне ў друку беларускай мовы з пэўнага месяца пэўнага года забаронена, то пошукі будуць марнымі. Мы можам казаць, што забарона была ўскоснай. Афіцыйна агучыць забарону мовы азначала і прызнаць яе існаванне. Больш выгадна было прызнаваць за беларускай мовай статус дыялекту (альбо *говора, наречия*) і не дазваляць выкарыстоўваць для перадачы на пісьме ці ў друку польскі шрыфт, што, адпаведна, як і польская мова, было забаронена ў 1864 г.

## Скарбы, якія мы не адшукалі

Важныя крыніцы для вывучэння кніжнай справы — разнастайная бібліяграфічная прадукцыя, асабліва — каталогі бібліятэк, выдавецтваў і кнігарняў, якія друкаваліся асобнымі выданнямі або змяшчаліся непасрэдна ў выданнях. З аднаго боку, гэта была масавая прадукцыя, разлічаная на рэкламу, распаўсюд інфармацыі для патэнцыйных пакупнікоў. А з другога — гэта тое, што прызнавалася з цягам часу непатрэбным, некаштоўным і знішчалася. Да прыкладу, у спісах па рэквізацыі (1919 г.) вядомай прыватнай бібліятэкі філолага, настаўніка мінскай гімназіі Сяргея Зубакіна, якая налічвала не менш за 10 тысяч тамоў, пазначана, што каталогі кнігарняў з кнігазбору «за ненадобностью» былі знішчаны.

Вельмі шмат недаследаваных крыніц знаходзіцца ў Пецярбургскім гістарычным архіве. Асабліва каштоўныя матэрыялы, у якіх адлюстраваны пытанні захоўвання і перамяшчэння прыватных кнігазбораў і манастырскіх бібліятэк. Пачынаючы з 1832 года закрываліся каталіцкія кляштары, вельмі інтэнсіўна ішоў гэты працэс пасля разгрому паўстання 1863 года. Масава вывозілі бібліятэкі — прыватныя, манастырскія, ведамасныя. Вывозілася ўсё, што лічылася польскай кнігай, якая трапіла пад забарону ў Расійскай імперыі, — у Вільню, Пецярбург, Маскву. Таму даследчыкам варта звярнуцца найперш у гэтыя архівы.

Лёсы рэквізаваных прыватных кнігарняў і кнігазбораў дапамагаюць раскрыць дакументы з Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці. Яны разгортваюць карціну вялікіх страт, разбурэнняў і не толькі матэрыяльных. Вядома, шмат было знішчана падчас Вялікай Айчыннай вайны (пра гэта пісала Таццяна Рошчына). Але не трэба забывацца на тое, што было страчана і паміж 1917 — 1939 гг. Гэты перыяд утрымлівае шмат белых плям па гісторыі кнігі Беларусі і асабліва патрабуе даследаванняў. Вядома, цяжка ці нават немагчыма знайсці адказы на ўсе пытанні: як склаўся лёс такіх кніжных рарытэтаў, што захоўваліся ў мінскіх кнігазборах, як Біблія Скарыны і Статуты ВКЛ, ці, напрыклад, карта Хрыстафора Калумба? Безумоўна, добра было б даведацца, што нашыя кніжныя скарбы не толькі былі, ёсць, а і адпаведна захоўваюцца хоць недзе ў свеце.

## Ствараць — значыць быць свабодным

Нашыя славутыя літаратуразнаўцы, якія аднымі з першых браліся за даследаванне беларускага кнігадрукавання, вядома, зрабілі вялікую працу. Але арыентацыя менавіта на беларускамоўныя выданні ці тыя, якія з'явіліся на тэрыторыі Беларусі, не заўсёды дазваляла ўбачыць поўную карціну. Трэба ўлічваць усе аспекты кніжнай справы, якая шырэйшая за геаграфію, за адну нацыянальнасць, адну мову. Вядома, і ў нас, і ў нашых суседзяў — палякаў, літоўцаў — могуць быць розныя падыходы да вывучэння гэтай тэмы. Але ў дадзеным выпадку ёсць сэнс не дзяліць спадчыну, а весці гаворку пра міжкультурную разнастайнасць, міжнацыянальнае ўзаемадзеянне, што дапамога разгледзець і разнастайнасць кніжнага свету, узнаўленне гісторыі якога патрабуе быць свабодным у думках і дзеяннях.

**Падрыхтавала Жана КАПУСТА**

# Многа Пігласаў не бывае:

## як беларускі супергерой змагаецца за дзіцячыя сэрцы



Надзея Бука падчас прэзентацыі кнігі.

**Пігласы прыляцелі ў наш край. Іх могуць пабачыць і дарослыя, і самыя маленькія. І той, хто верыць у казкі, і той, хто даўно ўжо забыўся на іх. Сваім пільным вокам яны паглядаюць на нас са старонак прыгожай блакітнай кнігі, зыркаюць з вітрынаў кнігарняў, назіраюць за кожным нашым учынкам, седзячы на футболках і світшотах, на паштоўках і закладках. І калі вы яшчэ не пазнаёміліся з гэтай дзівоснай істотай, чакайце, хутка чароўныя бурбалкі даляцяць да вашага пакоя…**

Прайшло багата часу з таго моманту, калі дзіцячая кніга «Бася і Пігляс» Надзі Букі выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», але гаворкі вакол яе не сціхаюць. СМІ запрашаюць пісьменніцу на інтэрв'ю, прэзентацыі кніжнай навінкі ладзяцца ў рамках розных праектаў, фестываляў, у бібліятэках, школах, кавярнях... Пра новага героя беларускай дзіцячай кнігі гавораць з зацікаўленасцю.

Такі масавы наступ Пігласаў не можа не радаваць. Бо беларуская дзіцячая літаратура, нягледзячы на стала высокі ўзровень, да гэтага часу не здолела стварыць сапраўды папулярнага героя. Творы дзіцячых пісьменнікаў застаюцца здабыткам для невялікага кола зацікаўленых. Новыя кнігі выдаюцца параўнальна невялікім тыражом, распаўсюджваюцца далёка не па ўсіх крамах. І цяжка ўявіць такую сітуацыю, каб перад урокамі школьнікі гутарылі пра Шашу з левага чаравіка, на іх заплечніках красавалася прыгожая Лахнэска, а па сшытках лётаў Пігляс. Утопія, ружовы сон аматара беларускай літаратуры дый беларускага выхавання. У рэальнасці дзеці гутараць пра прыгоды лялек-монстраў, абмяркоўваючы, хто з кім сустракаецца і ў каго якія суперздольнасці. Заплечнікі і сшыткі аздабляюць дыснэеўскія персанажы ці папулярныя героі расійскіх мультфільмаў. Штогод сваё месца пад дзіцячым сонейкам знаходзяць персанажы камп'ютарных гульняў. Галоўнае, што аб'ядноўвае гэтых зорных герояў, — незацікаўленасць у духоўным складніку. На першым месцы — прыгожая абгортка, захапляльнасць аповеду.

Надзя Бука стварыла ўнікальнага персанажа. Не хлопчык ці дзяўчынка, не герой міфаў і паданняў, не знаёмая ўсім жывёлка, надзеленая чалавечымі характарыстыкамі... Пігляс, відома, нагадвае птушку, але чакайце — гэта вока з крыламі анёла. Ён бачыць усё і ўсіх, але, як той анёл, не ўсімі заўважны. Пігляса акаляе арэол чараўніцтва. Замест слоў у яго — бурбалкі, замест звычайнай ежы — драўляныя зашчапкі.

Ёсць у Пігляса, як і належыць супергерою, унікальныя здольнасці. Ён можа лётаць, быць нябачным, нечакана з'яўляцца і гэтаксама нечакана знікаць. Аднак у выпадку з Пігласам фізічныя суперздольнасці далёка не галоўныя, яны толькі дапамагаюць герою выяўляць сваю духоўную моц. Дзіўная істота прыносіць натхненне, дапамагае каханым і тым, хто робіць добрыя ўчынкі. Галоўнае — герой вучыць дзяцей, як гэта — быць сапраўдным чалавекам. Ён не чытае дзецям мараль, што яны так не любяць, а дапамагае самім дайсці да разумення катэгорыі дабра. Зрабіла Бася нядобры ўчынак — і птушка-анёл знікла. Дзяўчынка разам з чытачамі аналізуе свае паводзіны. Заўважце, Пігляс усяго толькі знікае, бо яму не ўласцівыя жорсткія, агрэсіўныя паводзіны, якія сёння характарызуюць многіх дзіцячых герояў, — ён нікога не крыўдзіць, не прычыняе духоўнага ці фізічнага болю.



З іншым складнікам поспеху — рэкламай — усё не так проста. Аднак і ў гэтым кірунку новы твор спрабуе рабіць мо й маленькія, але ж упэўненыя крокі наперад. Зараз піяр дзіцячых выданняў выглядае так: інфармацыя пра іх распаўсюджваецца праз СМІ, рэклама на-вінак публікуецца ў выглядзе анатацый у іншых кнігах таго ж выдавецтва. Але ж наклады кніг далёкія ад масавых, а СМІ, якія б стала даносілі да аўдыторыі інфармацыю пра новыя дзіцячыя выданні Беларусі, зусім мала. Надзя Бука вырашыла самастойна ўзяцца за рэкламу свайго твора і героя. Аўтарка «Басі і Пігляса» з гэтай нязвыклай для пісьменніка функцыяй спраўляецца. Яна актыўна выкарыстоўвае сацыяльныя сеткі, дзе размяшчае выштрымкі з твора, ілюстрацыі, фотаздымкі з прэзентацый, спасылкі на артыкулы ў СМІ. Шмат пастоў аўтарка прысвячае Пігласу. Герой існуе самастойна, нават без казкі. А гэта падмурак для папулярнасці твора.

Вядома, да сацыяльных сетак можна ставіцца па-рознаму, аспрэчваць сур'ёзнасць лайкаў і каментарыяў, аднак нельга не пагадзіцца з тым, што віртуальная папулярнасць сёння лёгка можа перарасці ў папулярнасць рэальную. Як здарылася, да прыкладу, з Андрусём Горватам. Калі б не фэйсбучная актыўнасць аўтара, наўрад ці ягонае «Радзіва Прудок» атрымала б такі розгалас.

Да тагож сацыяльныя сеткі — сродак камунікацыі паміж творцамі. Хто якую кнігу напісаў, хто над чым працуе, хто які спектакль паставіў, хто якое кіно зняў — пра ўсё творцы сёння даведваюцца, у першую чаргу, з пастоў сваіх фрэндаў. І гэта дапамагае не варыцца ў асяродку толькі свайго віду мастацтва. А выхад у іншыя творы мастацтва — важны крок для папулярызацыі літаратурнага героя. Пігляс — герой не толькі казкі, але і мастацкіх работ Надзі Букі. Калі чароўная істота паселіцца ў мультфільмах, спектаклях, ахоп патэнцыйнай чытацкай аўдыторыі будзе сапраўды ўнушальны. Перспектыва, дарэчы, рэальная. Беларускі тэатр цікавіцца сучаснымі айчыннымі тэкстамі для дзетак. Так, у Гомельскім дзяржаўным тэатры лялек рэжысёрка Наталля Слашчова паставіла спектакль па творы Алены Мальчэўскай «Ша-ша з левага чаравіка». Улічваючы, што ў красавіку ў Мінску прайшло ажно шэсць паказаў гомельскай прэм'еры, ахвотных набыць кнігу пра Ша-шу пабольшае.

Калі актыўнасць пісьменніка ў сеціве — гэта, па сутнасці, рэклама для дарослай аўдыторыі, то перанос казачнага вобраза на глебу іншых відаў мастацтва, такіх, як тэатр, кіно, — гэта ўжо рэклама, накіраваная на маленькіх чытачоў. Ахапіць абедзве катэгорыі пісьменніку працяй за ўсё падчас прэзентацый, якія суправаджаюць выхад кожнай новай кнігі. За два месяцы Надзя Бука правяла шаснаццаць прэзентацый. І тут важная не толькі лічба, але й інтэрактыўнасць, арыгінальнасць сустрэч (іх суправаджаюць майстар-класы, лекцыі, гульні). Гутаркі ладзіліся ў розных лакацыях (ад Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў у Мінску да бібліятэкі сямейнага чытання ў Маладзечне), што таксама пашырае аўдыторыю.

Дадамо яшчэ адзін рэкламны ход, да якога не паленавалася звярнуцца аўтарка, — стварэнне і распаўсюджванне брэндынгавай прадукцыі. Пігляс і Бася з'явіліся на налепках, закладках, паштоўках і нават на адзенні. Улічваючы, што аўтарка — яшчэ й мастачка, уяўляеце, якой прыгажосці атрымаліся рэчы?.. Вядома, галоўная праблема такой рэкламы — распаўсюджванне. Аднак прыемныя дробязі з Пігласам, мо й не масава, але ж прадаюцца на прэзентацыях, у некаторых крамах і працягваюць выконваць сваю рэкламную функцыю, суправаджаючы маленькіх і дарослых гаспадароў.

У маім ружовым сне па Мінску (дый што там — па ўсёй Беларусі!) гуляюць Пігласы, Ша-шы, Шубуршуны, авечкі Адэлі... І дзеці ведаюць сваіх герояў, вераць у іх. Чакайце, чаму ж сон? Не, гэта будучыня, да таго ж — блізкая.

**Паліна ЛІСОЎСКАЯ**

# БІБЛІЯТЭКА ТАЯМНІЦАЎ

**«Яблыневыя сакрэты» — чарговая кніга, якую прэзентавалі ў пачатковых класах восьмай школы Оршы. Аўтары яе — Галіна і Сяргей Трафімавы.**

Раней дзеці разгадвалі «Ялінкавы сакрэты» і «Зорныя загадкі», даведаліся, «Колькі тайнаў у дожджыка» і «Ці растуць на залатым дрэве залатыя яблыкі», зачыталіся «Арэхавымі гісторыямі», зазірнулі ў «Мяхі з сюрпрызамі», вывучалі «Азбуку пешахода» і «Бярозавы алфавіт», пасябравалі з Дзедам Прыродаведам, пабачылі, якое яно, «Здароўе на талерцы», і шмат яшчэ якія кнігі аршанскіх пісьменнікаў Трафімавых не прайшлі міма іх увагі.

Імёны Трафімавых на слыху ў кожнай школе. Іх «Аршанскі буквар» стаў без перабольшання настольнай кнігай школьнікаў-аршанцаў. За параўнальна невялікі адрэзак часу аўтары напісалі каля паўтары сотні кніг, з іх больш за тры дзясяткі — у апошнія тры гады. Для пачатковай школы Беларусі яны стварылі дапаможнікі да курса «Чалавек і свет». Вядомыя Трафімавы і ў Расіі: іх «Сакрэты й цікавосткі навакольнага свету» перамаглі ў конкурсе «Л. В. Занкоў і дыдактыка XXI стагоддзя». Да таго ж у Беларусі Трафімавы вядомыя як дыпламанты Рэспубліканскага конкурсу ў намінацыі «Дзіцячая літаратура», маюць прэмію Петруся Броўкі (намінацыя «Літаратура для дзяцей»).

Да слова, аршанская СШ № 8 мае немалы досвед літаратурных сустрэч. У свой час наведвалі яе Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Сяргей Законнікаў, Давід Сімановіч. Магчыма, такой добрай традыцыі паспрыяў і той факт, што ў другой палове пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя тут настаўнічаў Уладзімір Караткевіч.

Час падараваў нам новыя інфармацыйныя тэхналогіі, але ёсць, на жаль, адваротны бок медаля: дзеці сталі мала чытаць. А між тым ніякая электронная версія мастацкага твора не заменіць напоўніцу звычайную кнігу з шоргатам старонак, пахам друкарскай фарбы. Школа вызначыла прыярытэт у выхаванні — вярнуць дзяцей да кнігі, прычым пачынаючы з першага класа. Рэалізацыі гэтай задачы вельмі дапамагае цеснае супрацоўніцтва з пісьменнікамі. Фонд кніг, якія Трафімавы падаравалі школе, дазваляе прыйсці выданням у многія сем'і. Дык чаму б не паспрабаваць адрадзіць практыку сямейнага чытання?..

**Мікалай КАМАРОЎСКІ**

# КАЗАЧНЫЯ МЕТАФАРЫ,

## альбо Што застаецца, калі сыходзяць чараўнікі?

Невычэрпнай тэмай для літаратара любых часоў і жанраў па-ранейшаму застаецца чалавечая адзінота — адзінота ў неабсяжным свеце незлічоных магчымасцяў. Знайсці сапраўднага сябра, водгук на любоў і пяшчоту нават у асяродку блізкіх і родных не заўсёды проста. Мабыць, таму, што ўсе мы так ці іначай блукаем лабірынтамі ўласнай самоты і так занятыя пошукамі выйсця, што не заўважаем тых, хто крочыць поплеч…

Дзіўна гучаць такія разважанні ў дачыненні да дзіцячай казкі. Аднак кніга Надзеі Ясмінскай «Васковы чараўнік, альбо Казка грукаецца ў дзверы» («Чатыры чвэрці», 2017 год, мастак Эльвіра Авечкіна) — сапраўды гісторыя пра адзіноту маленькага чалавека ў вялікім свеце дарослых стасункаў. У сучасных артыкулах па дзіцячай псіхалогіі ўсё часцей вядзецца гаворка пра тое, што сістэма абагуленых правілаў і абмежаванняў, якой мусіць падпарадкоўвацца дзіця, як толькі пачынае хадзіць у садок і школу, нівелюе індывідуальнасць і ў пэўным сэнсе забірае права на дзяцінства. Бяда ў тым, што бацькі часам таксама пазбаўляюць сваіх дзяцей гэтага права, патрабуючы, каб яны «не паводзілі сябе як маленькія» і «не засмучаліся з-за ўсялякай драбязы».

Гэткія штодзённыя псіхалагічныя здрады — вынік адсутнасці ўмення прыслухоўвацца, прыглядацца, выходзіць са сваіх лабірынтаў самоты насустрач любові і паразуменню. Як часта многіх з нас, цяперашніх мамаў і татаў, заклікалі ў дзяцінстве быць дарослымі! І мы стараліся як маглі, таму што «быць маленькім» — нібыта крыху сорамна... Урэшце выгадавалася некалькі пакаленняў, якія «праехалі сваё дзяцінства транзітам» і цяпер ані псіхалагічна, ані маральна не ў стане падараваць сваім дзецям магчымасць быць маленькімі, гарэзлівымі, непаслухмянымі, шумнымі, неабачлівымі — творчымі і непасрэднымі. Надзея Ясмінская ў сваёй новай кнізе спрабуе навучыць чытачоў (і дарослых, і маленькіх) не гарадзіць вакол чароўнага свету дзяцінства непралазны плот з усялякіх забаронаў і патрабаванняў, а паспрабаваць прыслухацца адно да аднаго і пачуць галоўнае — голас любові.

Гераіня казачнай аповесці «Васковы чараўнік, альбо Казка грукаецца ў дзверы», адзінаццацігадовая школьніца Лаўра Буранкова, жыве марамі, фантазіямі і неспатоленай прагай любові. Мама — бухгалтар, вечна спазняецца на працу і жыве ў бясконцым прадчуванні бяды. Тата — праграміст, таму «яго спіну дачка бачыць часцей, чым вочы». Яны, безумоўна, любяць адно аднаго, проста ў штодзённай мітусні часам страчваюць адчуванне, што важна, а што — не. Каб дапамагчы ім, у доме з'яўляецца той самы васковы чараўнік — дзядуля Чэй, убачаны Лаўрай у пляме воску з няроўнымі абрысамі падчас жартоўнай варажбы.




У Лаўры няма ані брата ці сястры, ані хатняй жывёлінкі, ані добразычлівай суседкі, і нават яе адзіная сяброўка саромеецца кантактаваць з ёй адкрыта, каб не засмяялі ў школе. Бо Лаўра лічыцца цяжкім дзіцёнкам, дзіўнаватым і занадта паглыбленым у сябе. Васковы чараўнік бярэцца вывесці дзяўчынку і яе блізкае атачэнне з замкнёнага кола самоты, і акурат тады пачынаюць здзяйсняцца мары і адбывацца цуды: звычайная шафа ў вітальні становіцца праходам у гасцёўню са шпалерамі, якія штодня мяняюць колер; плюшавыя цацкі-жывёлінкі на заплечніку Лаўры пераўтвараюцца ў сапраўдных, жывых істот (сабака Бісквіт, котка Юта), лялька Барбі — у маладую настаўніцу-практыкантку Варвару, фігурка Лучніка ўвасабляецца ў новым абліччы аднакласніка Вадзіма Лучкіна. Гераіня трапляе ў свет здзейсненых мараў, але, як водзіцца, за гэта трэба плаціць: выйсці на змаганне са змрочнікамі (мрачниками) і злобаратнямі, каб адшукаць тры чароўныя маткі нітак, з якіх дзядуля Чэй звяжа заплаткі для ўратавання гармоніі свету (заплаткамі можна зацыраваць дзірку, праз якую ў горад трапляюць страхі, што жывуць у падсвядомасці мінакоў). Калі дзіця будзе ўспрымаць найперш цікавы прыгодніцка-фантастычны сюжэт, то бацькі ўбачаць і больш глыбокія тэмы.

Лаўра атрымлівае магчымасць не толькі займець сапраўдных сяброў-жывёлінак і атрымаць ад іх той кавалачак цяпла і пяшчоты, якога ёй не ставала (бо ў сабак і катоў, на шчасце, няма тэрміновых справаздач, як у мамы), але і сустрэцца з іншымі «варыянтамі» дарослых, зрабіць адкрыццё, што яны «могуць быць не толькі сваякамі, але і сябрамі». Гэткай уяўляецца настаўніца Варвара, якая замяняе Раісу Конаўну на час хваробы. Яна прапаноўвае пісаць не «изложение», а «воображение», замест адзнак раздае пірожныя (чым вышэйшая адзнака, тым большая пірожка), на ўроках батанікі вучыць правільна карміць з рукі вавёрак, але самае галоўнае — распавядае пра важнасць узаемадзеяння: «Як толькі вы зразумееце, што патрэбна іншаму, вы навучыцеся ўзаемадзейнічаць, і тады станеце на крок бліжэйшыя адно да аднаго». Гэта не толькі пра тое, чым карміць у парку вавёрак.

Аднак і тут гераіню чакае расчараванне: чарадзейныя змены ў наваколлі бачыць толькі яна, і таму сяброўка, з якой яна дзеліцца радасцю новых уражанняў, робіць выснову, нібыта Лаўра захварэла і трызніць ад высокай тэмпературы. З замкнёнага кола самоты ў рэальным жыцці Лаўра трапляе ў замкнёнае кола сваіх фантазій, няісных для астаніх. Вядома, дзіцячая кніга не павінна несці адчування безвыходнасці. Надзея Ясмінска прапаноўвае трэці варыянт: ствараць уласнае чарадзейства — не заклінаннямі і сувязямі з містычнымі асобамі, а верай у свае здольнасці, веды, талент, смеласць. Магчыма, адной з самых вялікіх цяжкасцяў таго часу, калі дзіця ўступае ў створаную дарослымі сістэму кіравання / падпарадкавання, акурат і ёсць паступовая страта веры ў сваю непаўторнасць. Разам з няўпэўненасцю гадуюць дзеці ў сваіх галовах маленькіх пачварак, якія мацнеюць з году ў год і выпраўляюцца з чалавекам у дарослае жыццё. Каб гэтага не адбывалася, важна ведаць, дзе шукаць чароўныя ніткі і як правільна рабіць латкі. Казачная метафара вельмі лёгка пераносіцца на рэальнае жыццё, бо «цуды не знікаюць, нават калі сыходзяць чараўнікі».

**Жана КАПУСТА**




# «Вясёлка»: методыка літаратурнай адукацыі

Апошнім часам стала заўважна, што дзіцячая літаратура існуе сама па сабе, а методыкі яе выкладання — самі па сабе. Гэта датычыцца ў першую чаргу сучаснай літаратуры. У выпадку з публікацыямі часопіса для юных чытачоў і прадстаўленымі на яго старонках творамі, здаецца, усё якраз наадварот.

Пра гэта сведчыць і вялікая выдавецкая дзейнасць, распачатая калектывам «Вясёлкі» сумесна з выдавецтвам «Адукацыя і выхаванне», і руплівасць сяброў «Вясёлкі» — бібліятэкараў, настаўнікаў, метадыстаў… Яны шмат робяць для прапаганды часопіса, а значыць, для прапаганды беларускай дзіцячай літаратуры ўвогуле.

Як прыклад — і кніга Ірыны Буторынай «Урокі "Вясёлкі"». Справай свайго жыцця зрабіла яна метадычную работу па прапагандзе дзіцячай літаратуры і дзіцячага чытання. Чым жа цікавая кніга «Урокі "Вясёлкі"»?.. Па-першае, дапаможнік для настаўнікаў дазволіць на працягу навучальнага года правесці нямала адметных урокаў, забяспечыць іх метадычную аснову, дапаможа настаўнікам у пачатковай школе развіваць цікавасць да чытання ў самых малодшых школьнікаў. Ва ўступным слове «Ад аўтара» Ірына Буторына такім чынам характарызуе напрамак сваёй працы, адпаведна і напрамак работы чытача з яе кнігай: «Вопыт педагагічнай дзейнасці дазволіць кожнаму настаўніку ўбачыць разнастайныя магчымасці выкарыстання матэрыялаў часопіса "Вясёлка" ў адукацыйным працэсе. Творы мастацкай літаратуры розных жанраў, пазнавальны краязнаўчы матэрыял, займальныя заданні розных відаў, змешчаныя на старонках часопіса "Вясёлка", пашыраюць кола чытання вучняў, спрыяюць назапашванню чытацкага вопыту, развіццю чытацкай самастойнасці, развіваюць інтэлектуальную, эмацыянальна-каштоўнасную сферы асобы дзіцяці». І далей сцвярджае Ірына Буторына вартасці выбару «разам з "Вясёлкай"»: «Дазволім сабе засяродзіць увагу педагогаў на важных момантах, улік якіх дапаможа вызначыць напрамкі працы з часопісам:

— Заняткі пазакласнага чытання даюць настаўніку магчымасць пазнаёміць дзяцей з народнымі і аўтарскімі мастацкімі творамі розных жанраў, удасканальваць чытацкія ўменні вучняў. Кожны нумар часопіса "Вясёлка" можна лічыць невялікім маляўніча аформленым зборнікам твораў розных жанраў і розных аўтараў. Сістэматычная праца з часопісам розных гадоў выдання дазволіць стварыць уласную бібліятэку разнастайных мастацкіх твораў дзіцячай літаратуры.

— Праца з часопісам на ўроках і ў пазавучэбнай дзейнасці дазваляе паспяхова выкарыстоўваць патэнцыял медыяадукацыі — аднаго з сучасных напрамкаў педагогікі, мэтай якога з'яўляецца навучанне і выхаванне вучняў на матэрыялах сродкаў масавай інфармацыі (у тым ліку перыядычнага друку для дзяцей).

— Часопіс "Вясёлка" мае багатую гісторыю, выдаецца на літаратурнай беларускай мове, звяртае ўвагу вучняў на прыгажосць роднага слова.

— Змест часопіса дае настаўніку шырокія магчымасці рэалізацыі міжпрадметных сувязей, развіцця пазнавальнага інтарэсу, пашырэння агульнага кругагляду вучняў…»

Гісторыя публікацый у «Вясёлцы» — гэта гісторыя беларускай дзіцячай літаратуры за некалькі дзесяцігоддзяў. За гэты час выпрацаваўся набор вызначэнняў, якія характарызуюць і часопіс як такі, і выданне ў стасунках з чытачом… Толькі пра колеры вясёлкі часопіс у розныя гады справакаваў велізарную колькасць вершаў, загадак. А герой выдання — Вася Вясёлкін... Можна рабіць сапраўднае кіно, узяўшы за аснову вось гэтыя сімвалы, вобразы, архетыпы.

Метадычныя парады, комплекс урокаў і рознага характару заданняў для іх Ірына Буторына выбудоўвае шляхам знаёмства з публікацыямі «Вясёлкі» розных гадоў. Выразна, рэльефна выкарыстоўвае творы класікаў — Максіма Танка, Петруся Броўкі, Рыгора Барадуліна, Васіля Віткі... Выдатна, што метадыст робіць акцэнт на знаёмстве з творамі, якія здольныя выклікаць інтарэс у юных чытачоў, захапіць іх, увесці ў гульню. Напрыклад, Ірына Буторына падкрэслівае, што з прыказкамі, скорагаворкамі, прымаўкамі школьнікі сістэматычна працуюць на ўроках беларускай мовы і літаратурнага чытання. Падкрэслівае, што змест часопіса «Вясёлка» дазваляе сабраць і маляўніча аформіць багатую калекцыю скорагаворак, прыказак і прымавак. І называе гэты клопат сапраўднай метадычнай скарбонкай. Нагадвае, што ў яе могуць патрапіць творы Уладзіміра Мацвеенкі, Міхася Пазнякова, Міколы Чарняўскага, Анатоля Зэкава, Анатоля Клышкі. Даследчыца прыводзіць словы Васіля Віткі: «Чаму скорагаворкі так называюцца? Вы скажаце, таму, што павінны гаварыцца скора. Што праўда, то праўда. На тое яны і скорагаворкі. А вось дзеля чаго яны нам? Поўны адказ дасць той, хто скажа: скорагаворкі дапамагаюць нам вучыцца. Вучыцца радасна, весела, у ахвоту. Галоўнае ў скорагаворцы не ў тым, каб яе скора сказаць, а ў тым, каб правільна, выразна і прыгожа вымавіць кожнае слова. Скорагаворкі вучаць нас гаварыць, узбагачаюць нашу мову».

Літаральна кожная старонка работы Ірыны Буторынай — выдатная падказка для пашырэння прасторы цікаўнасці дзяцей у чытанні, у знаёмстве з беларускай кнігай. На мой погляд, паўсюль, дзе выкладаюць беларускую мову, беларускую літаратуру, дзе ідзе адукацыя на роднай мове, павінны мець кнігу «Урокі "Вясёлкі"».

**Мікола БЕРЛЕЖ**

## Вольга САКАЛОВА



***

*Мне Радзімы ніхто не пазычыць,
Ды й навошта акраец чужы?
Таму сэрца дагэтуль скавыча
Па сцяжыне на роднай мяжы.
Там усё зарастае быльнёгам,
Там дзяцінства схавалася ў цень.
Да юнацтва няма там дарогі,
Там у хаце чужы ўжо агмень.
Мне акраец чужы й не патрэбны.
Мне чужы не сагрэе душы.
Даражэй мне матуліна неба
І палын на зарослай мяжы.*

### Я зноў гартаю

*Я зноў гартаю успамінаў
Старонкі незлічоныя.
Шляхі. Дарожанькі-сцяжыны.
Свае, непазычоныя.*

*Жыла, не маючы спачыну,
І ў квецені, і ў хмарнасці.
Жыла, як маці навучыла:
Без пыхі ды без зайздрасці.*

*Гады мільгалі, што хвіліны, —
Імклівыя, няспешныя...
А іх, бы кветачкі каліны,
Вятры зрывалі грэшныя.*

*А я за ўсё ж удзячна лёсу —
Маною не разменьваю.
А чорна-белыя палосы
Я праўдаю ацэньваю...*

*І зноў гартаю успамінаў
Старонку за старонкаю.
Спявала болей пра каліну,
А выйшла песня звонкая!..*

### Вяртанне дамоў

*Ах, доля-сіраціначка,
Нясі дамоў, нясі...
Матулінай хусцінačкай
На ганак запрасі.*

*Як кладачка хістаецца!
Як рэчанька бурліць!
І месяц пасміхаецца,
А сцежку — не зняміць.*

*А я здалёк спяшалася
Бяскрылая дамоў,
Бо мама зачакалася
Мяне з чужых краёў.*

*Хай кладачка хістаецца,
Хай рэчанька бурліць,
Хай месяц пасміхаецца,
Я праўду буду піць...*

### Назавіся кветкаю

*Назавіся кветкаю — пазнаю.
Назавіся песняй — падпяю.
Назавіся рэхам — адшукаю.
Назавіся лёсам — прытулю...*

*Толькі ж ты і кветка, ты і рэха,
Ты і лёс мой, ты — мая радня.
Ты — сумленне, ты — мая суцеха,
Небакрай мой, вёсачка мая...*

### Лета

*Лёгкі ветрык-сваволя
Збажыну калыхаў.
І жытнёваму полю
Песню-долю спяваў.*

*Шапацела калоссе —
Саспявала. Жыло.
Песняй сонца лілося,
Песняй шчасця плыло.*

*Лёгкі ветрык-сваволя
Збажыну калыхаў.
І жытнёвае поле
Цалаваў... Цалаваў...*

### Смяялася лета

*Смяялася лета,
Вяночкі губляла,
Шапталася з ветрам:
— Прапала... Прапала...*

*Умывалася лета
Купальскай расою.
Убіралася лета
Чароўнай красою.*

*Гукалася ў лесе,
Салоўкам спявала.
Жытнёваю песняй
Нябёсы люляла...*

*Салодзіла вусны
Саспелай малінай.
І ўцехай-спакусай
За шчасцем маніла.*

*Кружылася ў кветках
І танчыла ўдала,
А восень-суседка
Пароль падмятала...*

*Каціласа лета,
Вяночкі губляла.
Шапталася з ветрам:
Прапала... Прапала...*

---

## Арцём КАВАЛЕЎСКІ



### Балтыйскі дывертысмент

***

*У маім пакоі жыве нешта,
Падобнае да спакою,
Якога я не прадбачыў ніколі,
Я ніколі не называў гэтае нешта
па імені,
Збіраючы шэрыя камяні на ўзбярэжжы
І марнуючы сваю нераспелую
Маладосць.*

*«Досыць гульняў!» —
Так аднойчы сказаў
Наймудрэйшы звышчалавек.
Я яму амаль што паверыў
І павесіў сумленне ў шафу,
Як наскрозь прамоклы і выцвілы плашч.
Я меркаваў, што сумленню там будзе
Утульна.
Час пазёрства і вытанчанага
Эксгібіцыянізму
Ператварыўся ў доўгую рэпетыцыю
І, нарэшце, здзейсненне
Уласнай капітуляцыі.*

*Я дазнаўся пра гэта, калі
Шторм натхнёны
Накрыў мяне
Хваляй сваёю апошняй.*

*Але я прачнуўся.
Апрануў белую кашулю
І заснуў на бясконцым беразе,
Пастаноўку спектакля даверыўшы
Ветру
І змроку.*

***

**І.Р.**

*Як сагрэцца альбо
Чым сагрэцца?*

*Гэтае проста-пытанне
Бянтэжыць мяне з таго моманту,
Калі мокрым блакітным вечарам
Я трапіў у коўзкі палон
Твайго суцяшальнага погляду.*

*Мне было надта халодна й няўтульна
Ад сораму,
Народжанага блізкай прысутнасцю
Тваіх кашэчых вачэй,
Квітнеючай макам усмешкі
І матылькавага трымцення далоняў.*

*Ты бачыла,
Як я марнею,
Мёрзну
І спакваля ператвараюся
У маленькую плеўку-ільдзінку.*

*Ты яе праглынула,
Адчуўшы мятны гаркавы водар
Майго зашкланелага сэрца.*

*Ты здзівілася смаку
І захінулася ў мой
Дымам прапахлы
Швэдар.*

*Пытанне,
Як сагрэцца альбо
Чым сагрэцца,
Бянтэжыла ўжо цябе.*

***

**чалавеку-з-крыламі-кірлі**

*Чалавек-кірля
Штодня прыходзіць на бераг
І прыпадабняецца да белай імклівай
птушкі.
Яго рухі і расхрыстаны плашч
Стракацяць нудны ландшафт
узбярэжжа,
І, здаецца, што чалавек вось-вось
узляціць, залунае...*

*Чалавек-кірля
Штодня спрабуе ўзняцца ў неба
І штохвіліны марыць
Пра апярэнне,
А чарада белых птушак
Толькі здзічэла смяецца
З марных памкненняў
Гора-летуценніка.*

*Але чалавек-кірля
Свядома не зважае
На белае брацтва:
Хай сабе птаства рагоча,
Гікае і здзекуецца.*

*Чалавек-кірля ведае:
Вынік — бздура,
Галоўнае —
Гэта матыў.*

***

**Памяці Таццяны Сапач**

*Калі снежыць жыццё зіма
І вецер арганна гучыць,
Як харал неўміручага Баха;
Калі ўсе шляхі і дарогі,
Праспекты, гасцінцы і сцежкі
Таямніча сплятаюцца
І ўтвараюць знак безвыходнай
Бясконцасці;
Калі немагчыма ўявіць,
Што — насуперак нашым чаканням —
Лёд не стопіцца ўраз
І на золак чакаць бессэнсоўна —
Нас агортвае коўдрай утульнаю
Восень —
Трапяткі ўспамін,
Час класічнае лірыкі і невымоўных
спадзяваў.*

*...калі снежыць жыццё зіма,
Я пастаўлю старую кружэлку —
Шапэна —
І згадаю
Пра Вас.*

---

## Дзмітрый ЮРТАЕЎ



***

*Над Дзвіною — Сафіі сабор,
Над Сафіяй — прастора неба
Ды загадкавы позірк зор.
Больш за гэта, бадай, не трэба.*

*Час спяшаецца ўсё далей,
І спыніць яго немагчыма.
Дзень пры дні — мітусня падзей.
Я іду і... праходжу міма.
Ды калісьці прыйду сюды,
Дзе ў малітве, да болю слёзнай,
У зямлі, камянёў, вады
Прабачэння прасіць не позна.*

*Застанемся мы візаві,
Белы Храм у таполях-ліпах,
Толькі рысы тваёй любві
На маўклівых і мудрых ліках.*

*Хоць у скронях ад жалю шчыміць
І сумленне сціскае сэрца,
Нешта будзе ў душы будзіць,
Нешта ў пацерах адзавецца.*

*Гэты позірк дзівосны зор…
Як паветра ў жыцці мне трэба
Над Дзвіною — Сафіі сабор,
Над Сафіяй — прастора неба.*

### Нягода

*Нябёсы ў журбе, няйначай,
Расчуліўся нешта й я,
І шыбы на вокнах плачуць,
Туманная кісяя
Палоніць непераможна...
Каб холад душы сагрэць,
Хоць трошкі цяпла дай, Божа,
Нямнога зусім,
Ледзь-ледзь...*

*Зноў смутнае недарэчы
Паўстане ў вачах, як мур, —
Даволі ўжо сварак-спрэчак,
Нягод, пераменаў, бур!
Хоць крышачку перадышкі,
Хвілінку спакою мець.
Але... зноў маланкі ўспышкі.
Пажыць бы яшчэ.
Ледзь-ледзь...*

### Белае

*Белае, белае, белае
Ў небе і на зямлі...
Шкляначка запацелая.
Водбліскі ў крышталі.*

*Крышачку супярэчлівы,
Крышачку неўпапад,
Час апранае ўвечары
Горад у снегапад.
Нешта навее светлае
З сумам напапалам,
Чыстае, запаветнае,
Што не згадаеш сам.*

*Сэрца заледзянелае
Быццам кранусь вуглі.
А за акенцам — белае
Ў небе і на зямлі...*

***

*Калі гарэць, калі сатлець —
Свой час нікому нельга змерыць.
Няхай нямнога буду мець,
Я буду жыць, я буду верыць!*

*Аддаць за шчасце супакой?
Ну што ж, спакой нам толькі сніцца.
Каб збіць у масла малако,
Як жаба ў збане буду біцца!*

*Праз мой будзённы адыход
Хтось нават можа засмуціцца,
Ды за заходам жа ўзыход —
Нагода зноўку нарадзіцца.*



Настасся НАРЭЙКА

# ВОГНЕННАЯ КВЕТКА

*Апавяданне*

Калі ўнучка бабці Зосі атрымала ў горадзе сур'ёзную літаратурную прэмію, пра гэта тыдні з тры гаварыла ўся Гарошкаўка. Збіраліся ў адной хаце на доўгія вячоркі і па чарзе чыталі ўголас Дашыны вершы, ківаючы галовамі ў такт радкам ды паўтараючы: «Але ж, але ж. Добра піша, па-нашаму». Бабця Зося ў пасяджэннях самадзейнага клуба аматараў паэзіі ўдзелу не брала. Ды ніхто і не крыўдаваў: што з яе, старэнькай ды глухаватай, возьмеш?

А потым прыехала сама Даша. У яе выпатрабавалі з сотню аўтографаў (для ўсёй радні!), запрасілі ў «клуб», ды толькі потым далі адпачыць.

Даша ўздыхнула з палёгкаю і ўзялася прыбіраць бабціну хату. А пасля…

— Слухай, я тут падумала, — Даша змахнула з валасоў павуцінне, якога паначапляла на гарышчы, заткнула за пояс джынсаў вільготную анучу і села за стол насупраць бабулі.

— Што такое, мая гарэзніца? — бабця Зося добра ведала гэты хітранькі бляск унуччыных вачэй і адклала ўбок няскончанае шытво.

— Памятаеш, я пытала ў цябе некалі, ці не пісаў хто з нашай сям'і вершы?

— Але ж. Ты хацела даведацца, ад каго табе перадаліся здольнасці.

— Ага. І як?

— Ніхто не пісаў.

— А гэта тады што? — Даша жэстам фокусніка выцягнула аднекуль зжаўцелы аркуш і паклала яго перад бабуляй. — Добры верш, дарэчы. Шкада, што няскончаны, але…

Дагаварыць дзяўчына не паспела: убачыла, як бялее родны маршчыністы твар, і змоўкла. На бабулінай шчацэ, зняверчанай апёкам, што па форме нагадваў кветку і за дзесяцігоддзі паспеў выцвісці, дыяментам скацілася дрогкая сляза.

— Вочы не бачаць, — глуха прамовіла бабця Зося. — Прачытай мне, Дашачка.

І ўнучка пачала.

*Я думала: сэрца не можа*
*Струменіць чужою крывёю.*
*Я думала: нельга ад болю*
*Чужога і чорнага выць.*
*Я думала так да таго,*
*Як сядзела з табою,*
*Чытала па вуснах гарачых*
*Бясконца: «Баліць!»*
*А недзе стагнала завея*
*З белай тваёй ліхаманкай.*
*І белых бінтоў павуцінне*
*Крэсліла чорная кроў.*
*Я занавешваю зноўку*
*Холад старэнькай фіранкай,*
*Я раскладаю ў каміне*
*Гарачыя кветкі кастроў.*
*Твой боль падаецца лёсам,*
*Ён робіць сінія вочы*
*Чарнюткімі, нібы ночы,*
*Крылы варон і вуглі.*
*Не бойся. Цябе ўратую.*
*Мы тою сцежкай пакрочым,*
*Якою па двое вякамі*
*Да светлага шчасця ішлі.*
*Я думала: сэрца не можа*
*Плавіць каханне з адчаю,*
*Са шкадавання сляпога,*
*З болю, з якім не пражыць.*
*Я думала так дарэмна.*
*Цяпер я цябе кахаю.*
*І кроў твая з гэтай раны,*
*Бы з сэрца майго, бяжыць.*

— Бабцю… — Даша асцярожна дакранулася да халодных, як лёд, старэчай рукі.

— Ведаю. Трэба расказваць. Гэта было ў вайну…

***

…Я не магла пакінуць яго. Адзінага жывога сярод соцень мёртвых.

Ён паспеў ужо часткова ўмерзці ў зямлю. І яна, ведаеш, была не чорная. Чырвоная! Гарачая кроў растапіла снег, а потым сама стала лёдам.

Бой скончыўся апоўдні, я схакала да першых прыцемкаў, як рабіла заўсёды, і пайшла. І там, у полі, пачула сярод страшнай, аглушальнай цішыні яго голас, ціхі, слабы… Ён прамаўляў… маё імя. Так звалі яго маці, але тады я не ведала гэтага.

Цягнуць параненага ў вёску было нельга: немцы. Таму я скіравалася да старога, часткова разбуранага палаца непадалёк ад яе. Ён некалі належаў збяднеламу магнацкаму роду, ад якога не засталося нават імя. Сюды баяліся прыходзіць і дужыя вясковыя мужыкі з іх вар'яцкай смеласцю, настоенай на гарэлцы. Казалі, што па ацалелых пакоях блукаюць здані. А мяне тады ворагі пужалі больш за прывідаў.



Цьмянымі калідорамі літаральна навобмацак я дацягнула параненага да самай аддаленай спальні. Агеньчык свечкі, знойдзенай у адной мне вядомым месцы, асвятліў вузкае акенца, невялікі камін і мутныя партрэты на сценах.

Я сарвала з ложка ўсё, што было, узняўшы воблака пылу, засцяліла больш-менш прыдатнае зноў і ўладкавала параненага як магчыма зручней. Сяк-так распаліла камін. Стала ўтульней.

Расталы ля агню снег прамыў раны, і з самай страшнай нечакана выйшла куля. Я ўзяла яе дрыжачымі рукамі і, не ведаючы, куды падзець, паклала ў кішэню.

Рэшткі адзення параненага я збіралася спаліць, і, калі перабірала іх, з акрываўленых лахманоў выпаў чырвоны драўляны грэбень з выразанай на ім кветкай, чые пялёсткі нагадвалі языкі полымя. Вогненная кветка…

Пацягнуліся бясконцыя дні, калі я чакала і пакутавала, а за імі праляталі, як імгненне, ночы. Раны паступова зацягваліся, але лягчэй не было. Чорныя вочы ліхаманкава блішчалі, вусны шапталі неразборлівае, тэмпература не спадала, нібыта ўнутры яго жыў агонь.

Паранены трызніў, мроя і ява змешваліся ў адзінае цэлае. Ён жаліўся мне, што ўдзень людзі з партрэтаў глядзяць на яго з нянавісцю і цягнуць празрыстыя рукі.

Калі распальвала камін, ён крычаў крыкам, просячы, каб я не саджала там, у гэтай чорнай, ашчэранай пашчы, чырвоныя кветкі.

— Гэта агонь, — гаварыла я. — Ён грэе.

Паранены не верыў:

— Гэта кветкі! Вялізныя чырвоныя кветкі! Яны спаляць мяне!

За вузкім акном скавытала завея. І аднойчы, прыйшоўшы, як заўсёды, я не знайшла ў пакоі майго хворага. Дзе?! Сэрца выскоквала, калі я бегла па палацы, спатыкаючыся, падаючы і зноў устаючы. Агеньчык свечкі трымцеў, як маё рванае дыханне.

Паранены ляжаў на падлозе ў цудам не разрабаванай бібліятэцы. Калі цягнула яго назад, ён гаварыў нешта пра ваўкоў…

З той пары я пачала чытаць яму ўголас. Адшукала больш-менш цэлую кнігу, «Верную раку» Стэфана Жаромскага, і словы нечакана добра супакойвалі хворага, закалыхвалі, люлялі. Ён больш не баяўся вогненных кветак. А замест закладкі я выкарыстоўвала той самы чырвоны грэбень.

***

Крызіс мінуў бліжэй да вясны. Паранены ўсё радзей правальваўся ў цяжкі, неспакойны сон і ўсё даўжэй углядаўся ў мой твар.

— Ты прыгожая, — былі яго першыя свядомыя словы.

Я здрыганулася, усцягнула на галаву хустку, што спаўзла з чорных, як ноч, валасоў, і апусціла вочы.

Яго звалі Аляксандрам.

Я аддала яму грэбень, матулін падарунак на шчасце, як ён сказаў, і з той пары мы чыталі разам. І, здаецца, дыхалі ў такт, і думалі пра адно і тое ж, і ўсміхаліся аднолькава. Мы ўсміхаліся! І пра пачуцці свае, цёплыя ды шчымлівыя, здагадаліся адначасова. Гэта было шчасце, і боль, і страх — усё ў адным. Ён падарыў мне матулін грэбень, хоць я і не хацела браць. А потым…

Немцы даведаліся, што ў палацы жыве паранены салдат, а хаваю яго там я. Хто расказаў ім? Мой аднавясковец, за якога я адмовілася ісці замуж яшчэ да вайны.

Адлік у тую раніцу ішоў на хвіліны… Мне пашчасціла, калі можна так сказаць, у тым, што майму параненаму тады нечакана стала горш. Ён амаль не ўпарціўся, калі я літаральна штурхнула яго ў патаемны пакой. Уваход туды мы знайшлі разам: ён хаваўся за адной з кніжных паліц.

— Што? Што ты робіш? — ён чапляўся за мяне, як дзіця за маці.

— Хавайся. Немцы ідуць.

— А ты?

— Я ім без патрэбы.

Ён супакоіўся, адпусціў мяне, адступіў.

— Мы будзем разам. Верыш, Зося?

— Веру.

Я зачыніла дзверы і выбегла з бібліятэкі.

Мяне ўжо чакалі…

***

Яны хацелі, каб я гаварыла. Па некалькі разоў на дзень мяне выцягвалі з нейкага падвала на святло і дапытвалі. А я… радавалася: не расстрэльваюць — значыць, не знайшлі, задаюць пытанні — значыць, не знайшлі, б'юць — значыць, не знайшлі! ЁН БЫЎ ЖЫВЫ. Ён уцёк. Ён выратаваўся. Нішто іншае важным не было.

А потым прывялі маіх бацькоў і сказалі, што заб'юць, калі буду маўчаць. І я сцялася. Упершыню. Яны ж нічога не ведалі! Я хацела была сказаць усю праўду, але тата не дазволіў: «Усё адно жывой яны цябе не выпусцяць, дачушка. І нам тады заставацца на гэтым свеце адным няма сэнсу». Я спярша не паверыла, а потым…

Іх расстралялі там жа. І я проста перастала адчуваць і сябе, і любы фізічны боль. Увогуле. Нават агонь не быў мне страшны. Ніводзін апёк, нават гэты, на твары, не пакінуў следу на маёй душы. Я маўчала наўзрыд.

Хутка яны нагуляліся і выкінулі мяне. Я была жывая. Што рабіць з гэтым? Ісці ў вёску? Да каго? Заставаўся палац. Там я сустракала перамогу... Усё скончылася. Засталіся толькі туга, сляды ад апёкаў па ўсім целе, зусім сівыя валасы і чаканне. Я ведала: ён прыйдзе. Так і сталася.

***

Ён быў той жа. Цалкам! Нібыта расставанне толькі прыснілася нам. І… не пазнаў мяне. Помню, як расказваў пра сваю выратавальніцу, такую смелую, такую юную, такую прыгожую.

Я слухала, ківала і намаганнем волі стрымлівала гарачыя, як смала, слёзы.

Яго вочы былі такія шчырыя, што ў мяне не хапіла смеласці прызнацца. «Няхай! Няхай памятае мяне той…» — думала я і сама сабе не верыла.

Ён развітаўся паспешліва і з палёгкай — я адчувала гэта скурай, той самай, што некалі гарэла за яго агнём.

Бразнулі дзверы.

Як заведзена, я падышла да шафы, узяла з яе нашу агульную кнігу і толькі тады ўсвядоміла: толькі што я перажыла самы страшны момант у сваім жыцці. Як жа я памылялася, дурніца!

Ён вярнуўся.

— Даруйце, але я забыў спытаць, ці не дапамогуць у маіх пошуках у вё…

Дагаварыць ён не паспеў, бо я ледзь не выпусціла кнігу з нечакана цяжкіх (як лёс!) рук, і з яе на стол выпаў чырвоны драўляны грэбень…

Па белым твары, такім родным, такім мілым, я прачытала ўсё: ён пазнаў мяне нарэшце і… жахнуўся.

Адно імгненне барацьбы. І таропкія крокі — прэч! прэч! прэч адсюль!

Усё перажытае праляцела ў мяне перад вачыма, і я бязгучна спаўзла на падлогу па халоднай, шурпатай сцяне…

***

— Ён больш не прыязджаў, бабцю?

— Ніколі. Толькі недзе гадоў праз дзесяць прыйшло пісьмо. З просьбай вярнуць грэбень. Я адаслала… Помню, вярнулася тады з пошты і напісала гэты верш. Мой першы і мой апошні.

— Ён быў даўжэйшы?

— Аркушы на тры. Я, на жаль, цяпер не ўзгадаю.

— Можна паспрабаваць знайсці твайго Аляксандра. Хоць бы па адрасе на канверце…

— Не! — рашуча адказала бабця Зося.

Даша змоўкла.

— Усё мінула, унучка. Вогненная кветка дагарае. І з попелу ёй не ўзрасці.

— Можна, я тады хоць напішу паводле тваёй гісторыі паэму?

— Што ж…

***

Даша старанна пісала некалькі гадоў запар, але, на жаль, не знайшла адпаведных па сіле слоў і кінула гэтую справу ўвогуле. Яе прэмія засталася адзінай.

# Уладзімір Андрэевіч. Валодзя…



*Анатоль Вярцінскі. Фота У. Крука.*

**Жывым — жывое. Мёртвым... Мёртвым — памяць. Толькі часам мы, жывыя, забываем пра тых, хто адышоў у вечнасць. Не, з памяці не выкрэсліваем, але нярэдка, калі з'яўляецца нагода, своечасова не кажам пра іх добрае слова. Так сталася і ў мяне з Уладзімірам Круком, з дня нараджэння якога 24 чэрвеня споўнілася 90 гадоў.**

Паўтаруся: 90 гадоў з дня нараджэння. А 65 гадоў таму ў газеце «Літаратура і мастацтва» быў змешчаны ягоны першы фотаздымак. У канцы 1957 года Крук стаў фотакарэспандэнтам «ЛіМа». Значыць, 60 гадоў назад. Праўда, у штат рэдакцыі «Літаратура і мастацтва» быў прыняты яшчэ ў канцы сакавіка 1951 года. Пасля таго, як дэмабілізаваўся з арміі, аддаўшы ёй сем гадоў. У «ЛіМ» жа быў узяты шафёрам. Як прыгадвае адзін з галоўных рэдактараў штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Мікола Гіль, «тады ў "ЛіМе" была, дайце веры, і свая машына, і адзінка шафёра, вазіў супрацоўнікаў на карычневым, гарбатым яшчэ "Масквічыку" ў камандзіроўкі, на дзяжурствы ў друкарню і з дзяжурстваў дадому, і. г. д.» А потым... Зноў слова М. Гілю: «Набыў Уладзімір фотаапарат, а гэта была "палучка" чырвонага байца за сем гадоў службы, і пачаў паціху, патроху здымаць. Вось так пакрысе, выконваючы сваю шафёрскую работу, авалодаў фотарамяством. Фотакарства за "баранкай" праз пэўны час стала прафесіяй, ён цалкам аддаваўся любімай справе, і яна стала мэтай ягонага жыцця».

Увогуле ж, стаж фотарэпарцёрскай работы ва Уладзіміра Андрэевіча быў большы за 45 гадоў. У верасні 1992 года (яшчэ адна «юбілейная» дата) стаў фотакарэспандэнтам часопіса «Тэатральная Беларусь», які пазней называўся «Тэатральная творчасць». Канчаткова на заслужаны адпачынак пайшоў толькі ў кастрычніку 1999 года. Дарэчы, некаторы час у гэтай рэдакцыі па сумяшчальніцтве працаваў і я, трымаючы гэта ў такім сакрэце, што ў «ЛіМе» ніхто і не здагадваўся. Не ў апошнюю чаргу таму, што ўмеў трымаць язык за зубамі Крук, з якім мы на гэты час ужо даўно сябравалі. Нягледзячы на вялікую розніцу ў гадах: ажно 19.



*Уладзімір Крук, 1978 г.*



*Мікола Аўрамчык, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў. Фота У. Крука.*

Дакладна і прыгадаць не магу, як мы зблізіліся. Бадай, ці не праз тое, што некаторыя тагачасныя супрацоўнікі штотыднёвіка маё з'яўленне ў рэдакцыі ўспрынялі прыхадам правінцыяла. «Раёншчык», — сёй-той казаў, надта не хаваючыся. Ды каб жа самі гэтыя «сталічныя эстэты» штосьці значнае напісалі! А вось менавіта Уладзімір Андрэевіч аказаўся адным з нямногіх, хто ўспрымаў усё прыязна. Таму паступова і пачалі складвацца паміж намі добрыя стасункі.

Асабліва прыязнымі сталі пасля таго, як Крук набыў «Волгу». У самога Івана Мележа купіў! Нярэдка на гэтай «Волзе» некалькі чалавек, сярод якіх абавязкова быў і я, выбіралі ў горадзе якую-небудзь сталоўку і ехалі абедаць. Яшчэ ж праз некаторы час пачалі ездзіць з Уладзімірам Андрэевічам у камандзіроўкі, часцей — на ягонай жа «Волзе». Паколькі ж тады камандзіроўкі давалі на некалькі дзён, а мы спраўляліся за адзін, то грошай на бензін ставала, хоць і выбіраліся далёка ад сталіцы…

Тыя сумесныя паездкі з Уладзімірам Андрэевічам былі карысныя тым, што дазвалялі лепш спазнаць жыццё. Адна справа, калі едзеш аўтобусам: «прывязаны» да пэўнага раскладу. Калі хто і аказваўся пры такіх паездках у нявыгадным становішчы, дык сам Крук. Збіралася шмат цікавых тэм, фактаў, я пісаў вялікія матэрыялы, і ў выніку ў газеце заставалася мала месца для фотаздымкаў. Так было і тады, калі мы наведаліся ў Гудзевіцкую сярэднюю школу, дзе працаваў выдатны педагог Алесь Белакоз, які вельмі шмат зрабіў для беларускай культуры. Нават музей стварыў. Музеем стала і старая сялянская хата. Без экспанатаў, бо сама па сабе з'яўлялася экспанатам. У якасці ілюстрацыі да гэтага матэрыялу ў «ЛіМе» быў змешчаны толькі яе здымак. І ініцыятарам гэтай паездкі быў Уладзімір Андрэевіч. Дарэчы, мы з Круком першымі так шырока расказалі пра Белакоза.

Уладзімір Андрэевіч умеў знаходзіць цікавых людзей. Найперш тых, хто плённа працаваў на ніве беларускасці. Ён пазнаёміў мяне і з Уладзімірам Пузынем — выдатным майстрам беларускіх народных музычных інструментаў, які, на жаль, колькі гадоў таму заўчасна пайшоў з жыцця. Некаторыя народныя інструменты У. Пузыня вярнуў з небыцця, сам вырабляў жалейкі, дудкі, трубы, а ў адным з пакояў інтэрната цяперашняга Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў стварыў музей беларускіх старажытных музычных інструментаў «Беларуская хатка». І пра Пузыню даводзілася пісаць, і пра гэтую «хатку».

Уладзімір Крук першым выказаў ідэю расказаць пра харэаграфічны ансамбль «Харошкі», які на той час рабіў нясмелыя крокі. У гэтага матэрыяла, дарэчы, быў цікавы працяг. Пры сустрэчы Валянціна Гаявая шмат расказвала пра свой калектыў, а Мікалай Дудчанка быў нешматслоўны. Таму частку яе слоў я «ўпісаў» у ягоныя вусны. Як жа здзівіўся, калі падобны матэрыял пра «Харошкі» зрабіла і адна карэспандэнтка БелТА. Наўрад ці сустракалася яна з кіраўнікамі калектыву, бо ў вусны Дудчанкі былі ўкладзены тыя ж словы, што і ў маім матэрыяле.

Працаздольнасць Уладзіміра Андрэевіча здзіўляла. Ён хадзіў на ўсе тэатральныя прэм'еры (падкрэслю: на ўсе!) і ўжо назаўтра прапаноўваў здымкі ў нумар. Без ягонага здымку не абыходзілася ніводнае літаратурнае свята. Не кажучы пра з'езды пісьменнікаў, пленумы, вечары ў Доме літаратара. І нават з пасяджэнняў творчых секцый даваў здымкі. У яго была ўнікальная фататэка: дзясяткі, сотні фотаработ, велізарная колькасць праяўленых негатываў… Да яго звярталіся супрацоўнікі многіх рэдакцый, калі патрэбна было фота якога-небудзь пісьменніка-юбіляра. Нікому не адмаўляў, кожнаму даваў неабходны здымак. Ягонымі паслугамі карысталіся і супрацоўнікі энцыклапедый, складальнікі розных анталогій, калектыўных зборнікаў. Звярталіся па дапамогу нават з Масквы, Ленінграда, са сталіц саюзных рэспублік.

Здавалася б, за такую тытанічную працу павінна была б быць і належная пашана. Многія яе, вядома, выказвалі, але далей за словы справа не ішла. Ніякіх узнагарод Уладзімір Андрэевіч так і не дачакаўся.

Сам жа Крук за сябе не ўмеў прасіць. Дый не хацеў. Хоць я неяк і намякнуў яму пра гэта. Тым больш і нагода з'явілася. Уладзімір Андрэевіч якраз зрабіў вялізны фотаальбом тагачаснаму сакратару ЦК КПБ Аляксандру Кузьміну. Дзясяткі здымкаў. Прыстойны альбом. Аляксандр Трыфанавіч, як вядома, адказваў за пытанні ідэалогіі, таму пытанне з узнагародай можна было вырашыць...

Кожны рабочы дзень ранкам я ўспамінаю яго. Дый як не ўспомніць, калі, ідучы ў свой кабінет, міжволі спыняюся каля суседняга. Цяпер у ім знаходзіцца аддзел вытворчасці Рэдакцыйна-выдавецкай установы «Звязда». Раней у гэтым кабінеце была фоталабараторыя. Ужо і не памятаю, ці была на ёй шыльда. Бадай, і не: рэдка ў лабараторыю, апроч яе гаспадара, хто і заходзіў. Я ж наведваўся рэгулярна. Надта добра было пры святле чырвонага ліхтара — пры такім святле, як вядома, некалі праяўляліся плёнкі, рабіліся здымкі — нетаропка пагаварыць…

Міжволі прыгадваю Крука і тады, калі праходжу па рэдакцыйным калідоры. Ледзь не ля самай столі вісяць партрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага. Гэтыя вялікія здымкі рабіў Уладзімір Андрэевіч. Абяцалі заплаціць. Атрымалася, што бясплатна. Ды грошай у рэдакцыі не знайшлося. Працаваць бясплатна яму было не прывыкаць. Каму толькі ні дарыў ён здымкі! Бралі як штосьці звычайнае, забываючы, што за імі — фотаматэрыялы: плёнка, папера, праяўляльнікі. І час.

Знайшліся ахвотныя папракнуць Крука і з іншай прычыны. Маўляў, выконвае розныя заказы, карыстаючыся фотаматэрыяламі, якія вылучае яму рэдакцыя. Было гэта яшчэ на пачатку маёй працы ў «ЛіМе». Моцна пакрыўдзіўся тады Уладзімір Андрэевіч. Так пакрыўдзіўся, што прозвішча таго галоўнага рэдактара, пры якім усё гэта адбылося, і чуць не хацеў.

Успомніў Уладзіміра Крука, і адразу лягчэй стала на сэрцы. Як бы там ні было, а ён чалавек з маёй біяграфіі. Уладзімір Андрэевіч, ці проста Валодзя.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**Фота з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва**

# Новы перакладчык, старая гісторыя...

**У № 18 «ЛіМа» за 5 мая 2017 года мы знаёмілі чытачоў з няпростай гісторыяй выдання рамана-эпапеі М. Лынькова «Векапомныя дні» на рускай мове ў перакладзе В. Тарсіса. Сёння прапануем працяг тэмы: як рыхтавалася поўнае выданне твора і чаму зноў не атрымалася ўкласціся ў запланаваныя тэрміны.**

24 лютага 1962 г. Міхась Лынькоў напісаў перакладчыку Яўгену Мазалькову наступны ліст:

«На днях прислал мне письмо Горбачёв (Міхаіл Васільевіч — рускі перакладчык. — **Р. Д.**). Он пишет о Тарсисе, о его, мягко говоря, неблаговидных поступках и в связи с ними — исключении его из партии…

Горбачёв пишет о жалобе Тарсиса в ЦК, в Союз писателей, в Гослитиздат, жалобе на то, что Гослитиздат не издаёт «Векапомных дні». Горбачёв пишет, что в Гослитиздате не против переиздания, но не в этом году и не в переводе Тарсиса. ЦК также против этого переводчика — причины уже известны.

Где же искать других переводчиков? "Думается, — пишет Горбачёв, — лучшей кандидатурой был бы Е. С. Мозольков". Я солидарен с такой мыслью, тем более, что и в своё время предлагал небезызвестному Е. С. перевести книгу романа. Но солидарен я или не солидарен с Горбачёвым, а дело упирается в Мозолькова.

Так вот, достопочтенный Евгений Семёнович, если ты не против этого дела, тогда тебе и перо в руки — берись сам или с кем-нибудь в соавторстве за дальнейшие судьбы «Векапомных»…» (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 262, л. 6 — 7).

Я. Мазалькоў пагадзіўся: «Я согласен перевести роман и постараюсь вложить в это дело весь свой опыт, старание и способности, но поскольку есть уже один перевод, проявлять инициативу мне не хочется. Правда, раз Тарсис обидел всех нас, советских людей, нечего бояться его "обидеть", тем более, что перевод с моей точки зрения неважный. Горбачёв предлагает, чтобы ты написал в изд-во заявку с предложением издать роман в новой редакции, с некоторыми сокращениями и в новом переводе. Не знаю, как лучше сделать. Во всяком случае, если изд-во предложит мне перевести, я возьмусь» (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 388, л. 4 — 4 адв.).

Міхась Ціханавіч звярнуўся да дырэктара выдавецтва «Гослитиздат» Рыгора Владыкіна з просьбай уключыць кнігу ў план. Прайшоў год, а ніякіх зрухаў у выданні рамана не было. 12 чэрвеня 1963 г. М. Лынькоў атрымаў ад Я. Мазалькова такі ліст: «На досуге перелистал снова "Векапомныя". После потока военной литературы последних лет, созданной под знаком "дегероизации", принижения великого исторического подвига белорусского народа, твой роман дохнул на меня новой свежестью, глубиной, правдивостью. Все же нужно, необходимо издать его по-русски. Может, ты пришлешь мне исправленный экземпляр и я подам заявку в "Сов. Писатель"?» (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 388, л. 5).



Фота з фондаў БДАМЛМ.

*Яўген Мазалькоў.*

Я. Мазалькоў падаў заяўку ў выдавецтва «Советский писатель», нічога іншага не заставалася, а М. Лынькоў пачаў працу па скарачэнні рамана, рабіў стылістычныя праўкі, уносіў свае прапановы і перакладчык. 9 жніўня 1963 г. ён даслаў Міхасю Ціханавічу вялікі ліст, у якім выклаў магчымыя варыянты выдання эпапеі. Стаўка была на тое, што раман выйдзе ў «Советском писателе» ў 1965 г., а ў 1966 — у выдавецтве «Беларусь». На справе ж паўтарылася гісторыя з «Воениздатом». Выхад кнігі затрымліваўся, загадчык рэдакцыі аддзела прозы Сяргей Кір'янаў нічога канкрэтнага пра тэрміны выдання не казаў, не быў заключаны і дагавор. Я. Мазалькоў спадзяваўся на 1966 г., але і ў гэтым годзе яго пераклад не ўбачыў свет. Галоўны рэдактар выдавецтва «Беларусь» Янка Казека, калі быў у Маскве, паведаміў М. Лынькову, што ў заключэнні Камітэта па друку было напісана: «Двухтомник М. Лынькова "Незабываемые дни" готовится к выпуску в издательстве "Советский писатель" № в 1967 году, к 50-летию Советской власти» (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 262, л. 23).

Заканчваўся ўжо і 1966 год, а «Советский писатель» па незразумелых прычынах усё цягнуў з заключэннем дагавора. Стала зразумела, што ў 1967 г. раман выдадзены не будзе. Нервы ў Я. Мазалькова не вытрымалі. Цяпер ужо ён, як некалі В. Тарсіс, выказваў М. Лынькову сваё абурэнне падобнай сітуацыяй: «Иногда у меня порывы написать т. Машерову. Я искренне считаю, что это безобразие — такое отношение к изданию романа. Может быть, новое руководство Союза писателей БССР обратится в изд-во "Сов. пис." или непосредственно в ЦК КПБ. В 1968 году (к твоему 70-летию и к 50-летию БССР) роман нужно издать в Москве, а ведь в январе — марте 1967 года будет уже составляться план выпуска 1968 года. За этот период вопрос должен быть решён окончательно… Какие-то людишки упорно мешают изданию книги» (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 388, л. 22).

Пераклад рамана (пасля ўсіх дапрацовак і скарачэнняў) Я. Мазалькоў завяршыў у верасні 1967 г. У адным з лістоў да М. Лынькова ён прызнаўся: «Рад, что "вытянул" работу до конца. Ещё в 1951 году, будучи на 16 лет моложе, я боялся, что не "вытяну" даже один первый том. Правда, это стоило мне немалых усилий» (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 388, л. 24 адв.).

Каля трох гадоў «Советский писатель» выдаваў «Незабываемые дни». Раман у перакладзе Я. Мазалькова ўбачыў свет у кастрычніку 1968 г. Тры гады — роўна столькі часу цягнуў з выданнем перакладу В. Тарсіса «Воениздат». А кажуць, што двойчы снарад у адну і тую ж варонку не трапляе.

**Раман ДУБАШЫНСКІ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.**

**Цытаты прыведзены на мове арыгінала**

*Пасляслоўе*

# АЛЬБОМ ДЛЯ МАРШАЛА ЖУКАВА



*Маршал Жукаў на адкрыцці помніка ў Цïргартэне.*



Гэтая гісторыя здарылася 24 лістапада 1973 года. У сонечным Пяцігорску адзначаў 70-годдзе беларускі пісьменнік, настаўнік і франтавік Вісарыён Гарбук. З віншаваннямі ад Саюза пісьменнікаў БССР накіравалі дэлегацыю, у склад якой увайшоў і паэт Казімір Камейша. Вось што ён узгадвае: «Вісарыён Сцяпанавіч вельмі ўзрадаваўся прыезду землякоў. Размовам і ўспамінам не было канца. Вядома, не абмінулі і тэму вайны. І тады Гарбук дастаў з шафы важкі альбом з фотаздымкамі. Ён пакрысе гартаў старонкі і расказваў гісторыю кожнага здымка. Перад намі паўставала гісторыя Вялікай Айчыннай вайны...»

Пасля Дня Перамогі асабовы склад 23-га ордэна Чырвонай Зоркі Упраўлення ваенна-палявога будаўніцтва, у складзе якога служыў і Вісарыён Гарбук, пачало ўзвядзенне на тэрыторыі Польшчы і Германіі помнікаў, мемарыялаў і абеліскаў загінулым воінам Чырвонай Арміі. У берлінскім раёне Цïргартэн па рашэнні ваенная савета 1-га Беларускага фронту (праект скульптараў Л. Кербеля, В. Цыгаля і архітэктара Н. Сергіеўскага) узвялі мемарыял з помнікам вышынёй 23 метры ў памяць пра 75 тысяч савецкіх воінаў, што загінулі пры штурме Берліна. Цэнтральная частка мемарыяла ўяўляе з сябе ўвагнуты шэраг калон з адной больш вялікай цэнтральнай калонай, якая з'яўляецца пастаментам для васьміметровай бронзавай статуі савецкага воіна. Вінтоўка на яго плячы гаворыць, што вайна скончаная. Надпісы на калонах расказваюць пра розныя ваенныя часці і захоўваюць спісы загінулых. Па абодвух баках спакой воінаў «ахоўваюць» два танкі Т-34 і дзве гарматы-гаўбіцы МЛ-20, якія бралі ўдзел у бітве за Берлін. За спінай салдата ў невялікім скверы пахаваныя каля дзвюх з паловай тысяч воінаў.

Урачыстае адкрыццё помніка было прызначана на 11 лістапада 1945 года. Чакаліся дэлегацыі ад усіх прадстаўнікоў кааліцыі саюзных дзяржаў. Павінен быў прыехаць і Жукаў. Вісарыён Сцяпанавіч расказаў, што яны з сябрамі вырашылі зрабіць падарунак для маршала: падрыхтаваць альбом, які б адлюстроўваў гісторыю Вялікай Айчыннай вайны. Знайшлі таўшчэзны альбом амаль на 300 старонак і пачалі запаўняць здымкамі. Прычым выкарыстоўвалі не толькі ўласныя фатаграфіі, але і трафейныя, зробленыя цэйсаўскай оптыкай. Уражваюць панарамныя фота Берліна з купала рэйхстага. Гістарычную каштоўнасць маюць здымкі парадаў савецкіх, амерыканскіх, брытанскіх і французскіх войскаў, якія адбыліся 7 верасня і 11 лістапада 1945-га ў Берліне.

Нарэшце падарунак быў гатовы. Але, пэўна, не так проста было сяржанту Чырвонай Арміі сустрэцца з маршалам. Падарунак застаўся ў Гарбука. Пасля яго смерці ўдава Людміла Пракоф'еўна разам са шматлікімі матэрыяламі перадала альбом у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, дзе ён і захоўваецца пад назвай «Альбом з фатаграфіямі доўгатэрміновых фортзбудаванняў у нямецкім умацаваным раёне "Одерский четырехугольник"».

А Казімір Камейша напісаў верш пад назвай «Франтавы альбом Вісарыёна Гарбука», які і прапаную вашай увазе:

*Шчымела сэрца, калі я гартаў*
*Далёкія паходныя старонкі.*
*Клубком агню каціласяа вярста,*
*Ад выбухаў трашчалі перапонкі.*

*Клубок пякельны…*
*Чую твой апёк,*
*Бяды маёй маланка шаравая.*
*Не, памяць анічога не хавае,*
*За памяццю ўслед ступае зрок.*

*Усюды чорны ды чырвоны снег.*
*Няўжо, няўжо ён быў калісьці белым?*
*Няўжо і я сам быў на той вайне?*
*Чаму і мне так страшна забалела?*

*Не дай жа божа гэткае прысніць,*
*А перажыць тым больш,*
*не дай жа божа!*
*Было ўсё зразумела ў тым агні —*
*Агонь агнём мы ўрэшце пераможам.*

*Гром пераможных залпаў адгрымеў.*
*Балюча зарубцоўваецца гора.*
*Я, можа, толькі сёння зразумеў,*
*Якім ён страшным быў,*
*той страшны вораг…*

І напрыканцы — пра сумнае: у ноч на 9 мая 2010 года мемарыял у Цïргартэне быў апаганены. Пасольства Расіі накіравала рашучую ноту пратэсту ўраду Германіі. І, на жаль, гэта не адзіны выпадак: у Польшчы, Украіне, Германіі і некаторых іншых краінах разбураюцца і апаганьваюцца помнікі, абеліскі і мемарыялы загінулым воінам Чырвонай Арміі, якія вызвалілі Еўропу ад фашыстаў. Тым, у каго кароткая памяць, хочацца прыгадаць наступны выраз: «У таго народа, які забывае мінулае, няма будучыні».

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

# Авангард для дзетак




**Ідэя краўдфандынгу ўдала прыжылася на беларускай глебе. Пры дапамозе краўдфандыгавых платформаў у нас ставяцца спектаклі, ладзяцца фестывалі, выдаюцца новыя кнігі. Вось і зараз на грошы зацікаўленых беларусаў выйшла новая дзіцячая кніга «Мастацтва Беларусі XX стагоддзя. Віцебская школа». Праект адшукаў народных спонсараў. Ці не гэта лепшае сведчанне таго, што ён патрэбны не толькі вузкай творчай суполцы, але і ўсяму нашаму грамадству?**

Натуральна патрэбны, бо такога дзіцячага выдання ў нас яшчэ не было. Хаця, здавалася б, ідэя кнігі — на паверхні. У даступнай, зразумелай, не нуднай форме распавесці дзецям пра айчыннае мастацтва XX стагоддзя — перыяд, здаецца, самы складаны для разумення не толькі дзяцей, але і дарослых. Што такое авангард і супрэматызм? Чаму «Чорны квадрат» Малевіча — шэдэўр? А людзі на карцінах Шагала не ходзяць, а лётаюць? Які след у беларускім мастацтве пакінулі Алеся Паслядовіч, Генадзь Хацкевіч, Людміла Русава? Бацькі, ці ўсе з вас гатовыя адказаць дзецям на гэтыя пытанні? А адказаць неабходна, бо мастацтва рухаецца наперад і ставіць перад намі ўсё новыя задачы. Вучыцца ж арыентавацца ва ўсіх лабірынтах сучаснага мастацтва лепей за ўсё з самага дзяцінства.

Новае выданне — удалы прыклад таго, як цікава, лёгка размаўляць з дзецьмі на складаныя тэмы. Рэцэпт поспеху даволі просты. Трэба злучыць тры галоўныя інгрэдыенты: трапныя літаратурныя творы, яркае афармленне і інтэрактыўныя творчыя гульні з чытачамі.

Над літаратурным складнікам кнігі працавала цэлая каманда творцаў. Андрэй Хадановіч, скарыўшы сэрцы беларускіх дзетак дый бацькоў сваім дзіцячым дэбютам «Нататкі таткі», разам з Лявонам Вольскім стварыў лёгкае, запамінальнае, даволі простае (але тое і няблага, бо выданне ж — для дзетак) паэтычнае аздабленне кнігі. У кожным раздзеле, прысвечаным творчасці аднаго мастака, сустракаем невялічкі верш, у якім паэты пазначаюць асноўныя асаблівасці творцы, дапамагаючы маленькаму чытачу запомніць галоўнае. Напрыклад, тое, што ў сваёй творчасці Марк Шагал часта звяртаўся да Віцебска, сваёй радзімы, Людміла Русава была першапраходцам у галіне айчыннага перформансу, а Руслан Вашкевіч у сваіх работах не проста хуліганіў, а ствараў постмадэрнісцкае мастацтва. Вершы не толькі даюць канцэнтраваную інфармацыю пра мастакоў, але і заклікаюць дзяцей далей самастойна паглыбіцца ў вывучэнне іх творчасці — пачытаць вершы Шагала ці даведацца, хто ж такі постмадэрніст. Калі паэзія ў кнізе выконвае інфармацыйную, пазнавальную функцыі, то проза яшчэ і звяртаецца да філасофскага асэнсавання феномена мастацтва ўвогуле. Адам Глобус, Валянцін Акудовіч, Ганна Кісліцына напісалі невялікія казкі паводле карцін мастакоў. Некаторыя з іх нагадваюць біяграфіі творцаў. Як, напрыклад, казка Валянціна Акудовіча «Над горадам з Бэлай», дзе ў казачным зззянні паўстаюць рэальныя Марк Шагал, Юдэль Пэн, Тэя Брахман, Бэла Розэнфельд. Іншыя казкі маюць прытчавае гучанне і распавядаюць пра волатаў і… курак. Усе казкі раскрываюць маленькім чытачом сэнс мастацтва. А яно можа ператварыць старое дрэва ў цудоўную мэблю, навучыць лётаць без крылаў, шукаць чараўніцтва паўсюль і змяняць свет, не з'яўляючыся Богам. Пасля такой літаратурнай прышчэпкі дзецям наканавана палюбіць мастацтва. А любоў, вядома, спараджае і жаданне зразумець упадабаную рэч.

Не абыйшлося дзіцячае выданне і без яркага афармлення. У кнізе, вядома, багата карцін мастакоў, і гэта абавязковы складнік, без якога падобнае дзіцячае выданне ўвогуле не мае сэнсу. Разыначку афармленню надаюць, па-першае, удалыя колеравыя рашэнні, а па-другое, маленькія ілюстрацыйныя дэталі. Літары і партрэты мастакоў афарбаваныя ў кнізе рознымі колерамі — не толькі дзеля эстэтыкі, але і для лепшага засваення інфармацыі. Невялічкія ілюстрацыі, размешчаныя напрыканцы казак ці ў намаляваных рамках да некаторых карцін, не прыцягваюць шмат увагі, аднак могуць адкласціся ў маленькіх чытачоў на падсвядомым узроўні ў якасці сімвалаў творчасці пэўных мастакоў. Як, напрыклад, птушкі і аблокі ў шагалаўскім раздзеле.

Дапаўняюць кнігу элементы гульні. Увогуле, кнігі-гульні — распаўсюджаная практыка ў сучаснай дзіцячай літаратуры. Некаторыя выданні патрабуюць ад дзяцей фізічных высілкаў, выканання прасторавых заданняў. «Мастацтва Беларусі XX стагоддзя», абапіраючыся на змест, прапануе чытачам маляўнічыя заданні, якімі і заканчваецца кожны раздзел. Намаляваць нацюрморт ці горад сваіх мараў, стварыць уласную новую мову ці пераапрануць Якуба Коласа ў нешта вясёлае… У мальберт для творчасці ператвараюцца лісты самой кнігі. Так, у дадзеным выпадку маляваць у кнізе не тое што не забараняецца, але і падахвочваецца. Такі дэмакратычны крок можна было б і не рабіць — няхай малявалі б на асобных лістах. Чаго кнігу пэцкаць?! Але крок зроблены — і добра. Літаратура напаўняецца свабодай, якая так уласціва сучаснаму мастацтву. Свабодай ад забарон і абмежаванняў. Свабодай ад голасу, скіраванага ў адзін бок. Бо тут размаўляюць не толькі пісьменнікі, але і чытачы, якія адказваюць ім сваімі малюнкамі. Дыялог, атрыманы ў выніку, развівае дзіцячую фантазію, а вандроўкі па новых ведах робіць займальнымі.

Сёння айчынная дзіцячая літаратура звяртаецца да гісторыі Беларусі ўсё часцей. Нядаўняя адзнака кнігі Уладзіміра Арлова «Айчына: маляўнічая гіторыя» прэміяй Цёткі пацвярджае гэты трэнд. Выданне «Мастацтва Беларусі XX стагоддзя. Віцебская школа» дапаўняе прыемную тэндэнцыю ўвагай да гісторыі беларускага мастацтва, якое вартае таго, каб пра яго ведалі і самыя маленькія беларусы.

**Паліна ЛІСОЎСКАЯ**

# Матывы роднай зямлі

**Першы паверх Палаца мастацтваў на працягу чэрвеня ўмоўна падзелены на тры асобныя выставачныя пляцоўкі, якія размежаваныя не па тэматычным, а па аўтарскім крытэрыі. Знакамітыя айчынныя жывапісцы Алесь Квяткоўскі, Мікола Купава, Аляксандр Дзяшко прадставілі мінскай публіцы юбілейныя выстаўкі, праз якія з розных бакоў раскрылі тэму роднай Беларусі.**



*Алесь Квяткоўскі «Балотны водар», 2013 г.*

**1. МЕНТАЛЬНЫЯ.** Выставачны праект мастака Алеся Квяткоўскага «Песні дрыгвы» зарадзіўся яшчэ ў 2012 годзе. Тады жывапісец шмат падарожнічаў па Палессі, натхняўся прыгажосцю беларускага краю. Усё, што ўбачыў, вырашыў адлюстраваць у серыі твораў. Толькі абстрагаваўся ад рэалізму, звярнуўся да беларускай міфалогіі. Героі яго твораў — нібыта персанажы казак: харызматычныя і адкрытыя. Сюжэты — паэтычныя і кранальныя. Прадстаўленым работам уласціва абстрактнае і рэалістычнае, ноткі імпрэсіянізму, спалучэнне жаночых абрысаў і прыроднай стыхіі.

Некаторыя творы — адсылка да беларускай літаратуры. Так, Алесь Квяткоўскі неаднаразова звяртаецца да твораў Уладзіміра Караткевіча альбо раскрывае паэтычныя радкі вершаў Віктара Шніпа. Тут жа і выдуманыя персанажы, якія, на думку аўтара, добра б упісаліся ў атмасферу Палесся. Алесь Квяткоўскі чапляе фантастычнымі ідэямі, тонка спалучае іх з рэальным светам, запрашае гледача не спыняцца ў разважаннях, прапануе ўзяць удзел у дыялогу.

Праект «Песні дрыгвы» ўжо знаёмы айчыннаму гледачу. Дагэтуль мастак прэзентаваў выстаўку ў Гомелі, Гродне, Магілёве і Ваўкавыску. Як адзначае жывапісец, практыка экспанавання адной выстаўкі ў розных гарадах дапамагае расказаць пра каштоўнасці краіны, захапіць гледача адметнасцямі рэгіёна і, магчыма, падштурхнуць яго наведаць прыгожыя месцы.

**2. ГІСТАРЫЧНЫЯ.** Экспазіцыя Міколы Купавы «Айчына светлая мая» раскрывае краіну праз гістарычных дзеячаў і падзеі. На палотнах — князі Альгерд, Вітаўт, Ягайла, гетман Канстанцін Астрожскі, Францыск Скарына і юны Франак Скарыніч ды дзясяткі іншых выдатных постацяў Беларусі, а таксама вялікія песняры зямлі беларускай Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Алаіза Пашкевіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч…

Выпадковых твораў у аўтара няма: з пачатку прафесійнага шляху ён прысвяціў сябе справе адраджэння, асветы, рэстаўрацыі занядбаных або зусім страчаных старонак беларускай гісторыі і культуры. Выстаўка Міколы Купавы — заклік шанаваць нашу гісторыю і развіваць краіну.

Мастак аднолькава прафесійна валодае рознымі тэхнікамі выяўленчага мастацтва, яму падуладныя як жывапіс, так і акварэль, лінарыт, афорт, каляровая аўталітаграфія, малюнак. Многія творы Мікола Купавы ўжо трывала займаюць месца ў шэрагу класікі выяўленчага мастацтва.



*Мікола Купава «Вялікі князь Вітаўт», 2009 г.*



*Аляксандр Дзяшко «Сонца ў галінках», 2017 г.*

**3. ПЕЙЗАЖНЫЯ.** Жывапісныя і графічныя творы Аляксандр Дзяшко таксама прысвяціў роднаму краю. Творца аддае перавагу простасці, але гуляе з колерам. У выстаўцы сышліся манахромныя пейзажы, у якіх вірую́ць эмоцыі, з творамі, сутнасць якіх вызначае колер ці спалучэнні колераў, часам нечаканыя.

На палотнах аўтара — беларускія краявіды: наваколле Лагойска, Мінскага мора… Свежасць і непасрэднасць яго твораў, напісаных з натуры, раскрываюць рамантычнае аблічча прыроды. Творца малюе ўзыходы, заходы сонца, месяца, калі ўсе фарбы набываюць максімальнае гучанне і больш вострыя, нечаканыя спалучэнні.

З твораў Аляксандра Дзяшко можна скласці альбом, у які ўвойдуць выявы прыгожых мясцін Беларусі: аўтар даказвае, што адметнае можна заўважыць вакол сябе, нават там, дзе жывеш, але не задумваешся часам, што побач. Раней аўтар працаваў у розных жанрах, але з часам зразумеў, што пейзаж натхняе больш за ўсё.

**Вікторыя АСКЕРА**

# 24 кадры ў секунду

## Мантажор Вольга Рашэтнікава пра вялікі падман на экране

**Праца гэтых людзей заўсёды застаецца па-за кадрам, нягледзячы на тое, што глядач бачыць кінастужку менавіта іх вачыма. Але звычайна публіку не цікавіць, хто манціраваў фільм, а ў Беларусі ўзнагарод за лепшы мантаж у кіно не даюць, прытым, што можна атрымаць такі прыз у Расіі, Брытаніі ці на амерыканскім «Оскары». Мантажор Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» Вольга Рашэтнікава распавяла, што залежыць у фільме ад мантажу і якія ляпы мы ніколі не заўважым на экране.**



*Кадр з фільма «Апошняе лета дзяцінства».*

**— Мантажу вы вучыліся на кінастудыі і займаецеся ім ужо больш за 40 гадоў. Які галоўны ўрок атрымалі?**

— У Акадэміі мастацтваў мантаж выкладаюць, але зрабіць гэта прафесіяй дагэтуль нельга, бо прадмет хутчэй дадатковы, чым асноўны. У Беларусі засвоіць прафесію мантажора нельга ва ўніверсітэце, але вельмі лёгка — на кінастудыі, гэта і мая гісторыя таксама. Так, я вучылася на курсах ва ВГІКу, але практычныя веды атрымала на «Беларусьфільме». Канечне, калі прыйшла на працу, было вельмі складана: трэба было працаваць з плёнкай (хоць не магу сказаць, што зараз лёгка).

Галоўны ўрок — памятаць, што ёсць стужка наогул, а кожны эпізод у ёй — гэта маленечкі фільм з пачаткам і фіналам. Таму вельмі важнае правіла ў мантажы, нават калі складаеш эпізод, — думаць пра фільм і акцёра наогул. Напрыклад, у «Слядах на вадзе» трэба было зрабіць так, каб глядач да фіналу не зразумеў, хто ў стужцы — антыгерой. І ў гэтым заключаецца прафесія мантажора: менавіта ён не павінен «прадаць» момант, эмоцыю, калі ў публікі пачне прачынацца падазрэнне. Хоць дасведчаны кінематаграфіст усё роўна зразумее, хто які герой. Я беспамылкова магу распавесці, чым скончыцца любы амерыканскі блакбастар.

**— Вольга Сямёнаўна, што павінен умець добры мантажор?**

— Зманціраваць кіно можа і сам рэжысёр, асабліва калі ён старой фармацыі. Пра важнасць мантажу я даведалася ад Віталя Дудзіна, з якім працавала на карціне «Пад небам блакітным» (яна атрымала на Венецыянскім кінафестывалі 4 узнагароды). Сам рэжысёр — выдатны мантажор, бо яго выкладчыкам у гэтай справе быў Андрэй Таркоўскі. Менавіта Дудзін у свой час паказаў мне, як сумяшчаць несумяшчальнае, бо ў мантажы, каб навучыцца добра рабіць справу, павінна быць пачуццё рытму, прасторавае мысленне, каб зразумець, як павінны размяшчацца кадры ў фільме. Гледачу здаецца, што кіно складаецца ў пазл роўна па тых момантах, калі грукнула хлапушка, але ж так не бывае! Насамрэч даводзіцца шукаць патрэбныя эпізоды вельмі доўга і з вялізнымі высілкамі.

**— Што для вас прыярытэтна падчас працы над фільмам?**

— Часта акцёры крыўдзяцца на мантажораў праз тое, што сцэны з імі выразаюць. Але калі гэта не патрэбна для фільма, калі сэнсу ў сцэне няма, то я магу лёгка пазбавіцца ад такога эпізоду: трэба расстаўляць прыярытэты. Думаю і пра гледача, калі працую за мантажным сталом, але разумею, што ў першую чаргу трэба браць пад увагу меркаванне наконт фільма здымачнай групы. Не буду асабліва дагаджаць гледачу, але часам ствараю «прыемнасці» для яго вачэй: устаўляю прыгожыя кадры, хоць яны і не заўсёды абавязковыя. Вось раней для публікі рабілі многае, асабліва ў 90-я гады: дадавалі кадры з аголенымі натурамі, прыгожымі жанчынамі, бо глядач ішоў паглядзець на гэта. Сёння галоўная задача мантажора ў тым, каб стварыць разумнае кіно: нават калі матэрыял сам па сабе добры, трэба ўмець яго якасна данесці.

**— Калі глядзіце чужое кіно, заўважаеце хібы? А ў вас такія пралікі ў фільмах былі?**

— Лёгка магу абстрагавацца ад прафесіі падчас прагляду. Часта ўспрымаю сюжэт як звычайны глядач. Калі кіно добрае, захапляе, то ўжо ні на што не звяртаеш увагі, нават на ляпы, якія часта на экране можна заўважыць. Памятаю, у нас здымаўся фільм «Ваўкі» Колбышава, там быў эпізод, дзе герой Уладзіміра Гасцюхіна выпівае з персанажам Андрэя Паніна. Мантаж гэтага эпізоду быў вельмі складаны: героі шмат рухаліся, размахвалі рукамі, таму важна было, каб рухі супадалі. Мы пераглядалі кадры па дзесяць разоў, былі ўпэўненыя, што ўсё ідэальна (ляпы тут былі б заўважныя адразу). І потым нечакана ўбачылі, што ў аднаго з герояў, які выпівае, пусты кілішак, што недапушчальна! Давялося манціраваць наноў. Вядома, імкнёмся пазбягаць такіх момантаў, але ляпы ў кіно — рэч даволі частая, а мантажор звяртае ўвагу на іншыя рэчы — на рухі, святло, акцёрскую ігру, таму часам не заўважаеш дробязяў.

**— Як мантажор павінен працаваць з рэжысёрам і шукаць з ім паразуменне?**

— Самае важнае, мяркую, — прафесіяналізм і добрае цярпенне, бо хапае рэжысёраў, з якімі агульную мову знайсці складана. Я працавала з эстонскім рэжысёрам. Ён паказваў мне свае мінулыя фільмы для прыкладу, але я ўсё роўна не ведала, як манціраваць, бо цяжка было зразумець яго стыль. У выніку вырашыла, што рабіць трэба так, як лічыш патрэбным ты: калі рэжысёру не спадабаецца, ён скажа, што змяніць. Яшчэ адна важная рэч — падчас мантажу трэба памятаць пра гук і музыку, часам гэта можа выратаваць кіно. На здымках «Ночы пры дарозе» аператар зняў вельмі прыгожы эпізод: пад Смалявічамі пабудавалі дэкарацыю-вёску, яе засыпала снегам, а камера зняла з вышыні панараму гэтай вёскі пад белай коўдрай, без адзінай душы. План сапраўды быў неверагоднай прыгажосці, але ўставіць яго не было куды, і я прапанавала паставіць пад гэты відэашэраг гук крокаў па снезе: бачна, што нікога няма, але хтосьці ідзе, і ў выніку гэта спрацавала!



*Кадр з фільма «Ваўкі».*

Звычайна рэжысёр прыходзіць у канцы працы — глядзіць, што атрымалася. Але, вядома, бываюць кінематаграфісты, якія любяць пасядзець у мантажнай, напрыклад, Дудзін. У Колбышава былі таксама добрыя ідэі, якімі ён дзяліўся з мантажорам: памятаю, ён зняў паўразбураную царкву са сцягам на вяршыні, а мы не ведалі, як скончыць стужку, і рэжысёр прапанаваў сумясціць гэты кадр з момантам, як герояў вязуць на санках у ГУЛАГ. Атрымаўся вельмі прыгожы эпізод з глыбокім сэнсам. На жаль, звычайны глядач наўрад ці адрозніць, дзе рэжысёр, аператар і мантажор сапраўды добра папрацавалі, ды яму гэта і нецікава, таму мала хто звяртае ўвагу на мантаж і ўважлівы да дэталяў, а гэта крыўдна.

**— А вас не крыўдзіць, што ўсе кінематаграфічныя лаўры атрымлівае рэжысёр?**

— Лічу, што так і павінна быць. Ёсць у нашай сферы публічныя прафесіі, а ёсць — не. Хоць кінематограф — творчасць калектыўная, ад гэтага нікуды не падзенешся. А тое, што рэжысёр атрымлівае авацыі, нават прыемна: калі камусьці прыйшла геніяльная кінематаграфічная ідэя, я з задавальненнем яе падтрымаю! Звычайна мне ўсё роўна, каму дастаюцца лаўры: калі гэта добра для фільма, калі гэта засталося на плёнцы, усё астатняе няважна. У мантажы, прынамсі на «Беларусьфільме», працуюць апантаныя людзі: здараецца, што мантаж сніцца, калі эпізоды доўга не можаш скласці! Каманда на кінастудыі сапраўды моцная: усе мантажоры вучыліся ў Беларусі, атрымлівалі тэхнічную адукацыю, а хтосьці абраў гэтую прафесію па спадчыне. Дакладна ведаю, што ў ёй застаюцца толькі тыя, каму гэта сапраўды дадзена.

**— Ёсць такое меркаванне, што «кіно нараджаецца на мантажным стале»...**

— Так, сапраўды, часам здараецца такое. Памятаю, як аднойчы падчас мантажу заўважыла няякасна зняты эпізод, і давялося прасіць здымачную групу пераздымаць сцэну. Ці раз-пораз не хапае нейкіх дэталяў, дробязяў, якія хочацца бачыць у стужцы. Справа ў тым, што на мантажным стале можна зрабіць з камедыі трагедыю, і наадварот. Цікава ўзгадаць, як «збіралі» «Метаною»: ні я, ні рэжысёр не ведалі, як скласці эпізоды, кіно было абсалютна мантажнае: склалі яго з дэталяў. У мяне не было такога, каб трэба было ратаваць фільм на мантажным стале, але на кінастудыі такое здаралася: напрыклад, «Апошняе лета дзяцінства» Рубінчыка не маглі ніяк прыняць, прасілі перарабляць кіно па некалькі разоў. Стужку падманціравала кінематаграфіст з Масквы, якая працавала з Эйзенштэйнам, і толькі ў яе атрымалася выратаваць фільм і захаваць яго такім, якім задумаў аўтар.

**— Наколькі крытычна ставіцеся да сваёй працы, калі бачыце зманціраваны фільм на экране?**

— Нядаўна я размаўляла з гукааператарам з «Беларусьфільма», які працаваў над стужкай «Вялікі» Тадароўскага. Ён распавёў, што Тадароўскі нават пасля заканчэння працы над фільмам працягвае яе дапрацоўваць, манціраваць. І гэта ўлічваючы, што манціраваў ён фільм больш за паўгода. Няма мяжы дасканаласці! Часам на мантаж аддаецца 5 дзён (так было са «Слядамі на вадзе»), хоць поўнаметражнае кіно па стандарце трэба манціраваць не менш за месяц. На прэм'еры я пагледзела на сваю працу, і некаторыя рэчы вельмі не спадабаліся: штосьці можна было зрабіць па-іншаму (матэрыял павінен адляжацца хоць бы некаторы час, каб пасля паглядзець на яго з іншага боку). Эпізоды, якімі ты не задаволены, ёсць амаль у кожнай карціне. Звычайна гэта першыя, бо здымачная група яшчэ не ўвайшла ў працоўную атмасферу, у кураж. Над гэтым б'ешся ўвесь фільм, але нічога не зробіш. Рэжысёрам некаторыя моманты ў мантажы таксама не падабаюцца, але ўсё ж калі мантажор працуе з рэжысёрам, то шляху назад няма, — працягваеш працу ў любым выпадку, шукаеш агульную мову. Хоць прафесія мантажора вольная: можаш перастаўляць эпізоды месцамі і складаць кіно сам — галоўнае, каб потым ухваліў рэжысёр.

**— Якое кіно было для вас самым складаным?**

— Напэўна, праца над фільмам «Развітальныя гастролі» Дудзіна, дзе першапачаткова здымалася Быстрыцкая. Але праз некалькі здымачных дзён яна сышла, а яе замяніла Гурчанка. Самае цікавае, што дзеянне адбывалася ў вагоне цягніка, дзе чатыры гераіні павінны сядзець у купэ побач. Людміле Гурчанка давялося здымацца адной, бо астатнія актрысы ўжо выканалі свае ролі. У выніку стужка была зманціраваная так, што нідзе не заўважыш, што адной з актрыс не было разам з астатнімі на здымачнай пляцоўцы. Вядома, сёння гэта не навіна, але ў той час было сапраўдным прарывам. Я б сказала, што кіно — гэта вялізны падман у нейкім сэнсе.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# У ТЭАТРЫ ХОДЗЯЦЬ ПАСПЯХОВЫЯ ЛЮДЗІ



**Таццяна АРЛОВА**

Пашыранае пасяджэнне калегіі Міністэрства культуры «Аб стане, праблемах і перспектывах развіцця тэатральнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь» рыхтавалася старанна. Задача была ў тым, каб прааналізаваць сітуацыю за 2012 — 2016 гады і за першае паўгоддзе 2017-га. Для гэтага было створана сем падгруп, куды ўвайшлі ўсе прадстаўнікі тэатральнай супольнасці, якія рэгулярна адсочваюць тэатральны працэс. Сярод шматлікіх праблем хочацца вылучыць тыя, што тычацца мастацка-творчых і вытворча-творчых аспектаў дзейнасці тэатраў драмы. Які сёння імідж тэатра? На якой мове гаворыць сучасны тэатр з гледачом? Ці разумна расходаваць сродкі з рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, прадугледжаных Дзяржаўнай праграмай «Культура Беларусі»? Ці стаў беларускі тэатр часткай міжнароднага тэатральнага працэсу? Нарэшце, што гэта такое — неафіцыйны праектны тэатр, які набірае моц як стыхійны тэатрарух?

Асноўны даклад рабіла намеснік міністра культуры Ірына Дрыга. З судакладам пра стратэгіі спажыўцоў тэатральнага рынку выступіла прадстаўнік інстытута сацыялогіі Ірына Лашук. З грунтоўных паведамленняў, што абапіраюцца на канкрэтныя лічбы і факты, стала ясна, што ўсіх трывожыць скарачэнне глядацкіх наведванняў тэатра на 10 % і тое, што 63 % насельніцтва наогул ніколі не ходзяць у тэатр.

## ЛЮСТЭРКА САЦЫЯЛОГІІ

Сацыёлагі вызначылі, што тэатральныя гледачы падзяляюцца на тры групы: актыўныя, неактыўныя, патэнцыяльныя. Актыўных менш за ўсё — 23 %. Неактыўных — 32 %. Патэнцыяльных — 45 %. Яны атрымліваюць інфармацыю пра спектаклі з афіш, ад сяброў, у распаўсюджвальнікаў квіткоў. Часцей за ўсё выбіраюць спектаклі відовішчныя, тыя, дзе ўдзельнічаюць любімыя акцёры, амаль заўсёды аддаюць перавагу класіцы. Сярод маладой актыўнай публікі толькі 18 % аддаюць перавагу эксперыментальным пастаноўкам. Жанравыя перавагі тэатральных гледачоў выстройваюцца цалкам прадказальна: гэта камедыі, меладрамы, мюзіклы. Людзі не гатовыя плаціць за тэатральныя квіткі даражэй за 10 долараў. Ахвотна ідуць на бясплатныя спектаклі. Дырэктар Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Уладзімір Карачэўскі адзначыў зніжэнне плацежаздольнасці насельніцтва. У Беларусі рынак культурных паслуг перанасычаны. Велізарная колькасць прыезджых, у асноўным расійскіх калектываў з вядомымі зоркамі кіно і шоу-бізнесу. Тым часам вельмі разбэшчваюць публіку бясплатныя акцыі на грамадскіх мерапрыемствах, калі ўключаецца адміністрацыйны рэсурс.

Разам з тым сацыяльная адказнасць тэатра змушае ўсё часцей наладжваць дабрачынныя спектаклі, асабліва для дзяцей-сірот, інвалідаў і людзей маласабяспечаных. Дырэктар Магілёўскага тэатра лялек Уладзімір Андрэенка падкрэсліў, што без такіх акцый яны не абыходзяцца. Нягледзячы на гэта, напрыклад, па выніках 2016 года іх калектыў меў запаўняльнасць залы на 93 %. Прычына — загадзя складзеныя графікі наведванняў спектакляў школамі, а таксама дапамога спонсара — аўтамабільнага прадпрыемства «Белшына».

Вядома, эфектыўнасць працы тэатра — гэта мастацкая якасць пастаноўкі, а не толькі рэальны фінансавы прыбытак. Аднак важнае і стаўленне да тэатра ўладных структур, асабліва ў рэгіёнах, і высокі прафесіяналізм тэатральнага калектыву.

## РЭАЛЬНАЯ КАРЫСЦЬ

Вывучыўшы афіцыйную даведку аб пастаноўках з 2012 па 2017 гады, прыходзіш да высновы, што вельмі мала спектакляў тэатраў драмы, на якія былі вылучаны сродкі па Дзяржаўнай замове, увойдуць у гісторыю беларускага тэатра. Шмат якія аказаліся аднадзёнкамі. Удалых спектакляў, пастаўленых за кошт федэральных і ўласных сродкаў, значна больш. Быў праведзены і складзены топ-10 беларускіх спектакляў 2016 года па версіі крытыкаў. 25 рэспандэнтаў назвалі 39 спектакляў. З рэгіёнаў часцей за ўсё фігуравала Магілёўская вобласць. Прыкметная тэндэнцыя павелічэння колькасці незалежных тэатральных праектаў: 12 з 39.



Выступоўцы на пасяджэнні адзначылі за пяцігодку шэраг удач у тэатрах Беларусі, склаўшы пэўны спіс.

Многія тэатры драмы з рэгіёнаў не ўвашлі ў яго. Асаблівая крыўда за ТЮГ, які перастае рабіць спектаклі для маладога пакалення. У ім прыкметна скарацілася аўдыторыя гледачоў. Ніхто не вывучае эфектыўнасць і мастацкую якасць спектакляў для дзяцей у тэатрах драмы. І калі б не поспехі нашых тэатраў лялек, самая юная частка насельніцтва (дарэчы, будучыя наведвальнікі дарослых тэатраў) аказалася б упушчанай.

Агульная тэндэнцыя частковага адкату і астуджэння публікі часцей за ўсё тлумачыцца тым, што сучаснасць прынесла шмат новых тлумачэнняў вядомых сюжэтаў. Класічныя творы, якія прапускаюцца праз рэжысёрскае бачанне, з'яўляюцца на сцэне ў незвыклых жанрах. Рэжысёрскі тэатр — тэндэнцыя нашага часу — унёс значныя перайначванні ў зыходны драматургічны матэрыял.

Тэхналагічны бок тэатральнага працэсу, які развіваецца, таксама ўнёс карэктывы ў бачанне драматургіі. Са з'яўленнем новых тэхнічных магчымасцей узрастае відовішчнасць спектакляў, часта, праўда, са шкодай для іх змястоўнага боку.

Так, замежная драматургія, даючы выдатны матэрыял для асэнсавання і інтэрпрэтацыі на тэатральнай сцэне, з'яўляецца той асновай, на якой шмат у чым трымаецца сучасны рэпертуарны і камерцыйны тэатр. Прадстаўлена яна ў беларускіх тэатрах лепшымі і не лепшымі ўзорамі. Праведзены аналіз паказвае, што сур'ёзныя і глыбокія творы, дзе сучасна аналізуюцца грамадскія працэсы і чалавечая прырода, існуе побач і паралельна з паныла-дыхтоўнымі і нахабна-забаўляльнымі вырабамі, у якіх абыгрываюцца анекдатычныя сітуацыі. Там замкнёнасць на інтарэсах уласнай асобы, маральная глухата, штампаваныя сітуацыі, адсутнасць яркай рэжысёрскай думкі і канцэпцыя шоу. Сучасны афіцыйны беларускі тэатр сёння настроены выключна на забавы. У яго мала актуальных сучасных спектакляў. Ён свайго роду сфера абслугоўвання. Пажадана, каб пры гэтым было весела і смешна.

Гэта не тычыцца спектакляў паводле беларускіх п'ес. Тут мала камедый. Прэвалюе даследаванне нашага гістарычнага мінулага. З агульнай колькасці напісаных і пастаўленых твораў 30 % прысвечаны гістарычным падзеям. Аднак, як сказана ў асноўным дакладзе, у беларускай драматургіі няма камерцыйнай выніковасці. Таму было прапанавана часцей праводзіць конкурсы на лепшую п'есу і абавязаць усе тэатры задзейнічаць малыя сцэны для пастаноўкі беларускіх твораў.

## КАДРЫ ВЫРАШАЮЦЬ УСЁ

Часта афіцыйныя рэпертуарныя тэатры адмаўляюцца ад пастаноўкі беларускіх п'ес, спасылаючыся на тое, што яны вельмі слабыя. Але нават дрэнную п'есу можна зрабіць годным спектаклем, калі ёсць зацікаўленасць рэжысёра і акцёраў.

У спісе нягучных дасягненняў, куды ломіцца публіка, — спектакль паводле п'есы Віталя Каралёва «Опіум». Яна зацікавіла маскоўскі Тэатр.*doc*, але ў нас не была запатрабавана. Аднак там вострасацыяльнае рэальнае сучаснае жыццё з яго праблемамі, неразуменнем і чалавечай абыякаласцю. Рэжысёр Аляксандр Марчанка, сцэнограф Андрэй Жыгур і зборная каманда акцёраў зрабілі таленавіты спектакль. Такі ж яркі спектакль па п'есе Максіма Дасько «Лондан» паставіла малады рэжысёр Алена Сямонціна. Дзякуючы Цэнтру беларускай драматургіі ўбачылі святло рампы п'есы Андрэя Іванова, Віктара Красоўскага. Паспяхова складваецца творчы лёс Дзмітрыя Багаслаўскага. Варта адзначыць, што гэтыя спектаклі зроблены з глыбокай павагай да зместу, а не да формы. Тэхналагічныя ўменні рэжысёраў, выкарыстанне пастановачных кампанентаў не засланяюць, а, наадварот, выяўляюць глыбінныя сэнсы. Але так бывае не заўсёды. З прычыны фінансавага ўразання бюджэту на новыя пастаноўкі ўсё часцей ставяць спектаклі не дасведчаныя майстры, а артысты і харэографы з мінімальнай завочнай адукацыяй. Новыя павевы часу не пераплаўляюцца ў мастацкія вобразы. Важныя тэмы і пласты рэчаіснасці не асвойваюцца праз непрафесіяналізм іх інтэрпрэтатараў. Шмат крытыкі прагучала на адрас навучальных устаноў, якія рыхтуюць кадры для тэатра. Часам няўдачы ідуць ад недасканалага светапогляду і жадання падыграць сытай публіцы заходніх фестываляў. Там любяць, калі мы паказваем сябе выродлівымі, бруднымі, абарванымі і злымі.

## НЯРОЎНЫЯ ЎМОВЫ

Таццяна Траяновіч, кіраўнік Цэнтра эксперыментальнай рэжысуры, расказала пра неафіцыйныя праектныя тэатры, пра тых людзей, якія не прызнаныя афіцыйна. Не сакрэт, што беларускі дзяржаўны рэпертуарны тэатр — гэта закрытая сістэма, якая не пускае ў свае сцэны нешта «неправеранае». Разам з тым ужо не першы год у Беларусі існуе іншы тэатр, які рухаецца наперад. Напрыклад, ужо 35 гадоў існуе тэатр «Інжэст», створаны Вячаславам Іназемцавым. Шмат гадоў б'ецца Яўген Карняг, які стварыў свой тэатр... Ёсць спектаклі, якія не сорамна паказваць, але да масавага гледача іх не пускаюць. Няўжо нельга знайсці месца, каб яны маглі працаваць на радзіме і ім не даводзілася б з'язджаць за мяжу? Яны радыя працаваць тут, фактычна без грошай. Давайце называць рэчы сваімі імёнамі: будзем гаварыць не пра рэпертуарны і праектны тэатр, а пра тое, што ёсць тэатры, якія афіцыйныя ўлады фінансава падтрымліваюць ці не падтрымліваюць па нейкіх прычынах.

Сёння 70 паспяховых праектаў ажыццёўлены ў самастойных тэатрах. Для параўнання: у Расіі 1500 тэатраў. З іх 500 дзяржаўных, 1000 — прыватныя. У Беларусі прыватных тэатраў зусім мала, але патрэба ў новых тэатрах вельмі вялікая.

Было б наіўна думаць, што тэатральны акцёр як творчая індывідуальнасць фарміруецца толькі ў тыя моманты, калі выходзіць на сцэну свайго тэатра. Жыццё акцёра працягваецца ў павільёнах кінастудый, у тэлевізійных залах, у пакоях Дома радыё. Што прымушае яго павялічваць свой дзень да бясконцасці, марнаваць нервы, фізічныя сілы? Акцёр з прагнасцю шукае сваю ролю.

Нават самы ідэальны тэатр не можа задаволіць кожнага акцёра настолькі, каб ён мог шчыра заявіць: «Сёння я іграю менавіта тое, што хачу». Усё яшчэ вузкае поле, на якім маглі б на поўную моц выявіцца маладыя таленты. Для адных рэпертуар складваецца ўдала, для іншых — не. Часам праходзяць гады, перш чым моцны, цікавы акцёр зможа выказаць сябе як творчая асоба. Да таго ж ён прывязаны да свайго калектыву, а праз два кварталы, у іншым тэатры іграюць п'есу, пра якую ты марыў, і «тваю» запаветную ролю граюць дрэнна, няўмела. Рэжысёр тэлебачання задумаў інсцэніраваць раман, які толькі што з'явіўся. Там ёсць для цябе найцікавейшая праца. Можа, недзе зусім блізка нечаканае, дзіўнае, што зменіць увесь твой лёс?

Так ці прыблізна так узнікаюць аб'яднанні аднадумцаў. Часам яны звязаныя рэжысёрам, часцей — працай над адным спектаклем. Але амаль заўсёды, беручыся за справу, у душы кожны марыць, што пасля гэтага спектакля, магчыма, паўстане новы тэатр.

Новыя тэатры з'яўляюцца рэдка, а вось таленавітыя акцёры ў выніку пошукаў нараджаюцца даволі часта.

Так, адкрываецца талент. Часцей за ўсё — калі трапляеш на «сваю ролю». Узнікненне новага калектыву выклікана імкненнем да самастойнасці мыслення, да пошуку, жаданнем зірнуць на п'есу свежым поглядам, свабодным ад напластаванняў часу і лжывых традыцый.

Станіслаўскі некалі сказаў пра вострую неабходнасць пераглядаць сваё жыццё і творчы почырк хаця б раз на пяць гадоў. У мастацтве тэатра прыём праз два-тры гады ператвараецца ў штамп. Моладзь супраць гэтага, і таму трэба толькі вітаць яе жаданне пачынаць жыццё ў мастацтве з палатачнага гарадка. Куды спакайней жыць, напрыклад, пад дахам утульнага, ціхага, слаўтага купалаўскага тэатра, у якога выдатная рэпутацыя і шматгадовыя традыцыі, але маладыя, якія шукаюць, усё роўна імкнуцца да самастойнасці.

## Надзеі

Сярод шматлікіх прапаноў аб перспектывах тэатральнага мастацтва заслугоўваюць увагі такія:

- неабходна распрацаваць доўгатэрміновую стратэгію і «Закон аб тэатры»;
- весці сістэмную работу з новым пакаленнем тэатральных кадраў, актыўна ўзаемадзейнічаць на ўсіх узроўнях;
- зрабіць роўнымі ўмовы існавання рэпертуарных і праектных калектываў;
- прадумаць стратэгію гастрольнай дзейнасці;
- даваць гранты і дзяржзаказы незалежным праектам;
- шукаць і знаходзіць новыя тэатральныя пляцоўкі.

Так хочацца, каб у найбліжэйшай будучыні ўсё гэта стала рэальнасцю.

# УЛАДАР ЦЫМБАЛЬНЫХ ПАСАЖАЎ

Выдатны музыка, кампазітар, выкладчык, навукоўца Іосіф Жыновіч меў складаны лёс: патрапіў пад кола рэпрэсій, прайшоў Вялікую Айчынную вайну, нарэшце, ажыццявіў столькі праектаў, колькі не змаглі б рэалізаваць і некалькі музыкаў. Невядомыя моманты жыцця творцы (сёлета адзначаецца 110-годдзе з дня яго нараджэння) высвятлялі разам з дачкой — Антанінай Іосіфаўнай Жыновіч.

## ЖЫНОВІЧ / ЖЫДОВІЧ

Да самай смерці Іосіфа Жыновіча нават яго дзеці не ведалі, што пачынальнік цымбальнай школы Беларусі меў за плячыма лагерныя выпрабаванні. Па словах Антаніны Іосіфаўны, нечаканая праўда амаль ніяк не паўплывала на сям'ю. Было вельмі шкада бацьку: напамінам пра белыя плямы ў біяграфіі засталіся сухоты, ад якіх Жыновіч пакутаваў усё астатняе жыццё. Іншыя згадкі пра ссылку старанна хаваліся — падпіска пра невыдаванне ў КДБ мела вялікі ўплыў. Антаніна Іосіфаўна паказвае анкету, дзе ў графе «Біяграфія» ўласнай рукой Іосіфа Жыновіча па гадах расписана ўсё працоўнае жыццё творцы. Насупраць кастрычніка 1935 года пазначана — «кіраўнік ансамбля народных інструментаў». Насамрэч гэтага не было. Некалькі год (прыкладна з 1934 па 1937) лепшы цымбаліст Беларусі правёў у Мардовіі. Уласцівыя пакаленням Жыновічаў працавітасць, талент ды любоў да зямлі, якія дапамаглі ім жыць у дастатку, а аднаму з сыноў — выбіцца ў людзі і зрабіць вясковыя цымбалы музычным сімвалам краіны, павярнуліся не на карысць сям'і. Вяскоўцы пазайздросцілі суседзям, у якіх усё ладзілася: разам са скрыпкамі, гармонікамі, цымбаламі майстравалі інструменты для сельскагаспадарчай працы, даглядалі дзве каровы, апрацоўвалі зямлю. На сям'ю мясцовых музыкаў напісалі данос, дзе прагучала жахлівае для 30-х гадоў слова «кулак»… Усё, што засталося ад тых часоў, — падмурак бацькоўскай хаты ў вёсцы пад Пухавічамі і сапраўднае прозвішча — Жыдовіч.

— Калі пасля рэпрэсій бацька прыехаў з Мардовіі ў Мінск, яму вярнулі ўсе належныя дакументы, атэстаты, дыпломы, — расказвае Антаніна Жыновіч. — Дазволілі нават займацца канцэртнай дзейнасцю. Але каб не ўзнікала ніякіх пытанняў, ён змяніў у прозвішчы літару «Д» на «Ж». Такім чынам, вядомы ўсім Іосіф Жыновіч — творчы псеўданім Язэпа Жыдовіча, бо на Заходняй Беларусі Язэпы сталі Іосіфамі, калі да ўлады прыйшоў Сталін. Калісьці ў «Літаратуры і мастацтве» выйшаў артыкул пад назвай «А праўда ўсё ж перамагла», прысвечаны майму бацьку. Тады карэспандэнт газеты браў паперы, звязаныя з яго вызваленнем. На шчасце, непрыемнае мінулае не замінала бацьку ні ў працы, ні ў творчасці, ні ў сямейным жыцці (маці ведала пра ссылку, але не пабаялася ажаніцца з былым «ворагам народа»).



Сярод шматлікіх узнагарод, якія атрымаў І. Жыновіч, — залатыя медалі «Народны артыст БССР», «Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР», «Лаўрэат конкурсу ўсесаюзнага фестывалю савецкай моладзі», ордэны «Знак пашаны», «Працоўнага Чырвонага Сцяга» ды іншыя.

## БАЦЬКОЎСКІ ЗАПАВЕТ

Сям'я Жыновічаў склалася дзякуючы музыцы. Цымбаліст Іосіф Жыновіч выступаў з аркестрам у Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі, дзе ўбачыў Галіну Гаўрыльчык — салістку тэатра, вучаніцу савецкай опернай прымы Ларысы Александроўскай. Убачыў — і закахаўся. Галіна была маладзейшая за яго на 12 год, але розніца ва ўзросце не перашкодзіла: ажаніліся. Неўзабаве з'явіліся дзве дачкі, Ліяна і Антаніна. Яны не сталі опернымі спявачкамі альбо цымбалісткамі: звязалі жыццё з фартэпіяна. Дарэчы, такі шлях для дачок абраў бацька. Славуты беларускі цымбаліст не хацеў, каб дзеці пайшлі па яго слядах, лічыў, што цымбалы не для дзяўчат: інструмент цяжкі, да таго ж канцэртнае жыццё заўсёды са шматлікімі пераездамі ды гастролямі.

Нягледзячы на тое, што малодшая дачка Антаніна скончыла кансерваторыю па класе фартэпіяна і працавала канцэртмайстрам у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка амаль 38 год, цымбалы значна паўплывалі на яе жыццё. Такі быў бацькоўскі запавет. Перад смерцю Іосіф Жыновіч папрасіў Антаніну займацца яго справамі. Зараз Антаніна Іосіфаўна даглядае сямейны архіў, клапоціцца пра ўшанаванне памяці творцы. Калі бывае цяжка, згадвае, як ён навучаў яе ў шпіталі: «Запомні два словы: цярплівасць і вытрымка. Цярплівасць і вытрымка — тады ты заўсёды будзеш на вышыні». Гонар за бацьку пранесла праз усё жыццё: нават пасля вяселля Антаніна пакінула прозвішча Жыновіч, пасля змяніла яго на Жыдовіч.

— У нашым доме заўсёды гучала музыка, — згадвае Антаніна Іосіфаўна. — Пакуль у адным пакоі разам з канцэртмайстрам і выкладчыкам па вакале спявала маці, тата пачынаў разыгрывацца ў спальні. Мы з сястрычкай усё паглядалі на гадзіннік: калі ж бацька пачне граць беларускія мелодыі? Нарэшце мама заканчвала рэпеціраваць, і тата выконваў створаныя ім беларускія танцы. Чатыры хвіліны, пяць хвілін… Ён граў з такой неверагоднай хуткасцю, што мы, хоць і маленькія, не маглі не дзівіцца такому майстэрству.

— Наша дзяцінства праходзіла то ў Доме афіцэраў, то ў Вялікім тэатры. Іосіф Жыновіч праехаў па ўсім Савецкім Саюзе, маці часта выпраўлялася на гастролі ў Прыбалтыку. Нягледзячы на надзвычайную занятасць, бацькі заўсёды знаходзілі час на мяне і сястру. Маці навучыла смачна гатаваць і рабіць торты: у той час не прынята было купляць пачастункі ў крамах, а ў кватэры заўсёды збіраўся «бамонд». Госці прыходзілі то адзначаць юбілеі, то прысвяенні чарговых ганаровых званняў, і кожную ноч перад святам мы ўтрох стаялі каля пліты. Дачу ў Ждановічах, дзе нашымі суседзямі былі Пястрак, Шамякін, Мележ ды іншыя вядомыя беларусы, Іосіф Жыновіч пабудаваў менавіта для дзяцей. Мы з Ліянай раслі хваравітыя, і ён перажываў за наша здароўе, нават адпраўляў у Друскінінкай на лячэнне. Бацька любіў выязджаць на дачу, любіў свежае паветра і птушак, адпачываў і працаваў там. Ён жа ад зямлі, з сялян і вучыў мяне ўсяму, што памятаў з дзяцінства.



Іосіф Жыновіч з жонкай і дачкамі.

## ЖЫЦЦЁ Ў ІМЯ ТВОРЧАСЦІ

Іосіф Жыновіч — вясковы талент-самародак, вучыўся музыцы на слых. У пятнаццаць год прыехаў у Мінск з заплечнікам ды цымбаламі і амаль адразу ўладкаваўся ў Першы беларускі драматычны тэатр (зараз Дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), дзе яго майстэрства ацанілі Янка Купала і Якуб Колас. На пачатку музычнай дзейнасці юнак нават не ведаў нот, а пасля скончыў адразу тры аддзяленні кансерваторыі — выканальніцкае, дырыжорскае і кампазітарскае. Атрымаў Іосіф Жыновіч і юрыдычную адукацыю, якая вельмі дапамагала яму ў адміністрацыйнай працы з аркестрам і на пасадзе загадчыка кафедры народных інструментаў.

Майстэрства ў выкарыстанні цымбалаў выходзіла за межы ўласна беларускага інструмента. Калі ў БССР прыязджалі дэлегацыі з іншых краін, Іосіфа Жыновіча часта запрашалі на ўрачыстыя вечары ў Дом дружбы. Ён выступаў з прывітальнымі словамі, выконваў музычныя кампазіцыі. Многія дэлегацыі прывозілі свае нацыянальныя інструменты, сярод якіх былі і аналагі нашых цымбалаў. Антаніна Іосіфаўна згадвае, як бацька граў на «чужых» цымбалах: «У яго быў абсалютны музычны слых. Музыкі паказвалі, што трэба рабіць, ён сядаў за замежны інструмент і адразу ж пачынаў выконваць беларускія мелодыі».

У сям'і Жыновічаў захоўваюцца газеты з матэрыяламі пра знакавага творцу, з напісанымі ім артыкуламі. Іосіф Жыновіч шмат пісаў пра цымбалы, аркестр ды гастролі, але часта падпісваў свае тэксты імёнамі аркестрантаў: яны мелі невялікія заробкі, і такім чынам атрымлівалі дадатковы ганарар.

— Не ведаю, адкуль тата браў на ўсё сілы, — кажа Антаніна Іосіфаўна. — Ён ездзіў па вёсках і гарадскіх пасёлках рэспублікі ў пошуках таленавітай моладзі, здымаўся ў кіно, запісваўся на тэлебачанні, кіраваў аркестрам, пісаў падручнікі, выкладаў у кансерваторыі — быццам спяшаўся ўсё паспець. Калі ж захварэў на рак, хіміятэрапія не дапамагла. Прапанаўвалі аперацыю ў Бараўлянах, але ён не пагадзіўся: адмовіўся, каб не парушаць гастрольны графік. Наша сваячка, у якой была такая ж самая аперацыя, пражыла пасля яе 20 гадоў. Бацька сканаў на 66 годзе. Марыў, што пасля яго смерці іншыя працягнуць удасканальваць цымбалы. Гэта быў надзвычай адданы сваёй справе чалавек.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Быць Жыновічам

Іосіф Жыновіч застаўся ў гісторыі мастацтва як заснавальнік беларускай акадэмічнай цымбальнай школы. У Беларусі шмат народных інструментаў, але дзякуючы яго намаганням сімвалам краіны сталі менавіта цымбалы. Спадчына Жыновіча не забытая: гучаць яго кампазіцыі, у музычных школах і на занятках па педагагічнай падрыхтоўцы выкарыстоўваюцца яго падручнікі і гістарычна-навуковыя артыкулы. Імя Іосіфа Жыновіча стала знакавым і для Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Пра ўнёсак майстра ў айчынную культуру распавяла **дацэнт кафедры струнных народных шчыпкова-ўдарных інструментаў БДАМ Рыма Падойніцына:**

— З цымбаламі ён прайшоў вайну ў складзе канцэртнай брыгады, з цымбаламі пасля перамогі вярнуўся ў Мінск, каб дапамагаць адраджаць кансерваторыю і аркестр. Частка артыстаў загінула на фронце, інструменты і ноты згарэлі, фабрыка ў Барысаве пацярпела, — усё давялося ствараць нанова. Ужо ў 1945 годзе адкрылі клас цымбалаў, і Жыновіч пачаў выкладаць у кансерваторыі. Калі праз чатыры гады з'явілася кафедра народных інструментаў, ён узначаліў яе і займаў пасаду загадчыка да 1963 года.

Як толькі пачаў займацца з цымбалістамі, сутыкнуўся з праблемай: як вучыць, калі няма падручнікаў? Хутка знайшоў выйсце: у 1948 годзе сам стварыў «Школу для беларускіх цымбалаў», якая выйшла тыражом 5000 экзэмпляраў. Гэта была першая метадычная работа ў Беларусі не толькі для цымбалаў, але і для народных інструментаў наогул. У пасляваенны час Жыновіч кансультаваў майстроў, якія выраблялі цымбалы (непасрэдна пад яго кіраўніцтвам з'явіліся цымбалы-кантрабас), арганізаваў мноства аглядаў мастацкай самадзейнасці, каб знайсці здольных падлеткаў для аркестра (адной са «знаходак» стаў кампазітар Яўген Глебаў).

Ва ўсіх праявах Іосіф Жыновіч быў прыкладам служэння цымбальнаму мастацтву: яркі саліст, ансамбліст, педагог, прафесар, метадыст, кампазітар, дырыжор, мастацкі кіраўнік дзяржаўнага аркестра, нарэшце, добры і душэўны чалавек… Спалучаць такія ўласцівасці здольны не кожны музыка. Ён меў комплекс талентаў, і ва ўсіх кірунках сваёй дзейнасці дасягнуў значных вяршыняў. Цяпер надышоў час вузкай спецыялізацыі, людзі выяўляюцца ў розных якасцях, але дагэтуль ніхто не наблізіўся да яго шматграннасці. Напэўна, каб быць таленавітым ва ўсіх напрамках, трэба нарадзіцца Жыновічам.

# Гарадскія матывы

## ў творах праекта «Арт-астравы-2017»



*Павел Вайніцкі, Вадзім Мацкевіч «Бітва на Нямізе».*

Скульптура вялікага памеру не можа застацца без увагі. Часта мастакі мэтанакіравана ствараюць аб'ёмныя кампазіцыі, каб прыцягнуць увагу як гледачоў з досведам, так і тых, хто раней звязаны з мастацтвам не быў. У Мінску, на тэрыторыі вострава Камсамольцаў у парку Перамогі, працуе праект «Арт-астравы-2017». Выстаўка складаецца з адзінаццаці маштабных аб'ектаў мастацтва, у ліку якіх скульптуры і арт-інсталяцыі беларускіх аўтараў.

«Арт-астравы» ладзяцца ў Мінску ў трэці раз. Сёлета праект прысвечаны 950-годдзю сталіцы: мастакі рабілі падарункі роднаму гораду. Прасторавыя інсталяцыі створаны з разнастайных матэрыялаў: ад дрэва да пластыку і металу. Некаторыя аб'екты ў вышыню — больш як пяць метраў.

Сустракае на востраве арт-інсталяцыя Паўла Вайніцкага і Вадзіма Мацкевіча «Бітва на Нямізе». Гэтая работа найбольш поўна раскрывае тэму Мінска, распавядае пра першае летапіснае згадванне горада.

— Дзве нашы скульптуры кампазіцыйна аб'яднаныя тэмай легендарнай бітвы, — расказаў скульптар Павел Вайніцкі. — Залаты і сярэбраны коннікі, якія сышліся ў паядынку, апелююць да трагічнай гісторыі першай летапіснай згадкі Мінска. Гледачы і мінакі могуць стаць часткай бітвы, пазіруючы для фатаграфій, у якіх сімвалічна злучаюцца гістарычнае мінулае і сучаснасць.

Васіль Цімашоў і Паліна Пірагова дэманструюць вялікую планетную канструкцыю «Лакатар», якая прызначана для рэлаксацыі, паглыблення ў свет прыроды. Андрэй Шыловіч стварыў вялікі кубак як своеасаблівае пажаданне радасці, дабрабыту і дастатку жыхарам горада, а Таццяна Гомза прыдумала пластычную экафантазію «Клумба», дзе растуць дзьмухаўцы ды іншая пластыкавая расліннасць. За «Гарадскімі сакрэцікамі» наведвальнікі змогуць паназіраць у інсталяцыях Жанны Марозавай і Алены Чэпелевай. На востраве ўсталявалі тры бетонныя калодзежы, у якія можна зазірнуць праз шкло і ўбачыць розныя прадметы гарадскога асяроддзя. Каб прыцягнуць увагу гараджан, аўтары прысыпалі шкло пяском. Такія «сакрэцікі» многім мінчанам нагадаюць пра дзяцінства. Анатоль Арцімовіч і Іван Арцімовіч прадставяць вобраз планеты, якую ўтвараюць сплеценыя ў адзінае цэлае мужчынская і жаночая фігуры. Арт-аб'ект павінен падвесці гледача да ідэі кахання — менавіта на гэтым пачуцці, па меркаванні мастакоў, трымаецца свет.



*Васіль Цімашоў, Паліна Пірагова «Лакатар».*

Такія праекты, як «Арт-астравы», вылучаюцца інтэрактыўнасцю. Тут можна скульптуру не толькі разглядваць, але і дакрануцца да яе, на некаторыя інсталяцыі можна нават залезці. Падобныя выстаўкі дазваляюць жыхарам горада адпачываць усёй сям'ёй. Мастакі з вялікай ахвотай згаджаюцца ўдзельнічаць у такіх праектах: па-першае, можна не хвалявацца за аб'ём, а ўвасобіць твор такім, якім задумаў, па-другое, работа абавязкова знойдзе гледача, бо ў нашай краіне выстаўкі на вольным паветры прыцягваюць наведнікаў.

— Удзел у праекце — магчымасць зрабіць даволі вялікую працу ў грамадскай прасторы хутка і весела, — падкрэслівае Павел Вайніцкі. — А паўтарацца я не магу, бо гэта сумна і нецікава. Кожны год мы выконваем розныя задачы і ў выніку атрымліваем арыгінальныя творы. Мне падабаюцца «Арт-астравы» менавіта як пляцоўка для эксперыментаў, а тое, што такія праекты ў краіне запатрабаваныя, — выдатна, і не хочацца нават разважаць, чаму. Хочацца толькі ствараць і ўпрыгожваць наш горад.

Сёлета «Арт-астравы» выклікаюць супярэчлівыя пачуцці. Прыемна, што ў горадзе з'яўляецца больш арт-пляцовак на вольным паветры і жыхары актыўна наведваюць іх. Але ж ад майстроў хацелася б больш глыбокіх ідэй, якія б змаглі не проста нагадаць нейкія падзеі, а, магчыма, раскрыць іх глыбей, зачапіць наведніка. Каб яшчэ некалькі дзён ён памятаў пра скульптуру, якую ўбачыў, і захацеў прывесці сябра. Сёлета аўтары паспрабавалі праз творы паказаць любімы горад, большасць зрабілі гэта ў абстрактнай форме.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс

**Штогод на пачатку ліпеня ў мемарыяльным комплексе «Буйніцкае поле» пад Магілёвам ладзяцца ўрачыстасці ў памяць пра падзеі першых месяцаў Вялікай Айчыннай вайны.**

**Менавіта тут 8 ліпеня 1941 года падчас упартага змагання паміж войскамі 172-й стралковай дывізіі Чырвонай Арміі і танкавай армадай Гудэрыяна, імклівы рух якой на Маскву спынілі, немцы панеслі сур'ёзныя страты: за адзін дзень — 39 танкаў!**

**Падзеі гэтыя, магчыма, не сталі б шырока вядомымі ў сумятні першых тыдняў вайны. Але здарылася так, што ў Магілёве ў гэты момант знаходзіўся карэспандэнт франтавой газеты Канстанцін Сіманаў, ужо вядомы пісьменнік. 13 ліпеня ён пабываў на полі бою, у размяшчэнні 388-га палка 172-й стралковай дывізіі. Убачанае так уразіла ваеннага карэспандэнта, што ён не змог пра гэта не напісаць. Нарыс Канстанціна Сіманава «Гарачы дзень» пра бітву каля беларускай вёскі Буйнічы ўжо 20 ліпеня апублікавалі ў газеце «Известия».**




*Фота Кастуся Дробава.*

**Пасля ў лёсе пісьменніка Сіманава былі вялікая вайна і вялікая літаратура, але галоўны свой твор — раман «Жывыя і мёртвыя» — ён прысвяціў абаронцам Буйніцкага поля, іх жыццю і смерці.**

**2 верасня 1979 года на Буйніцкім полі прайшла журботная і ўрачыстая цырымонія. Родныя і блізкія Канстанціна Сіманава, які адышоў у нябыт 28 жніўня ў Маскве, выконваючы яго волю, развеялі прах пісьменніка над гэтым полем. Так знайшоў свой вечны спакой на зямлі Беларусі адзін з выбітных творцаў вялікай літаратуры.**

**Праз год на месцы, дзе адбылася жалобная цырымонія, усталявалі старажытны ледавіковы валун вагой 15 тон, на якім выбіты аўтограф пісьменніка, а на зваротным баку маецца надпіс: «К. М. Сіманаў. 1915 — 1979. Усё жыццё ён памятаў гэтае поле бою 1941 года і завяшчаў развеяць тут свой прах».**

**Ірына СТРОК**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
22.06.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1554.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2153

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686